ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXIX, №279 New York, July — Ліпень — 1980 Vol. XXIX № 279

# ПАМЯЦЬ

## (НА 10-Я ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ МІКОЛЫ АБРАМЧЫКА)

Нашую багаслужбу сяньня (8 чырвеня 1980 г.) Айцец Расьціслаў закончыў словамі: „вечная памяць". Спадар Антон Шукелойць, адчыняючы гэтую памінальную бяседу, гаварыў пра людзей „сьветлае **памяці"**. Хор словамі Янкі Купалы прапяяў ад імя ўсіх нас: „мы Вашых павек **не забудзем** магілаў". Падобна як і „Песьняры" на Бацькаўшчыне выказваюць словамі Якуба Коласа глыбокія й пяшчотныя пачуцьці людзей свайго зялёнага краю: „мой родны кут, як ты мне мілы, **забыць цябе ня маю сілы"...**

Чалавек ня можа жыць бяз памяці. Памяць патрэбная кажнаму індывідуальна й калектыўна, і асабліва патрэбна нам, „в рассеянии сущим". Нам, адарваным ад роднай зямлі, памяць замяняе тэрыторыю. На бацькаўшчыне людзі зьбіраюцца разам, трымаюцца разам, бо жывуць разам. Мы-ж, раськіданыя ў чужым моры, сяньня зыйшліся якраз у імя Памяці. Памяць прывяла нас сюды, зьбрала ў вадно цэлае.

Гэтак вось мёртвыя трымаюць пры жыцьці жывых. Мы фактычна й ёсьць замагільнае жыцьцё папярэднікаў нашых. Мы — іхны працяг і іхнае лучво зь вечнасьцяй. Тое самае й пра народ сказаць трэба: народ існуе нагэтулькі, наколькі памятае сябе самога.

У перахоўваньні нашае народнае самапамяці нязвычайна важную ролю выконвае Царква. Штонядзелі яна прыгадвае нам будаўнікоў ды апякуноў „храму гэтага" й увесь Народ Беларускі. Штонядзелі ўвасквашаем мы ў сваёй памяці й Еўфрасіньню Полацкую, і Кірылу Тураўскага, і Айца Хведара Данілюка, і Архіяпіскапа Васіля. Сяньня да іхнага ліку мы дадалі Прэзыдэнта Абрамчыка й Сэнатара Рагулю, як будаўнікоў нашага Нацыянальнага Храму.

У нашым грамадзкім і палітычным жыцьці мы будуем далей на тым самым фундаманьце, які заклалі сьветлай памяці папярэднікі нашыя. Будуем, ведаючы, што паўніня памяці ўлучае ў сябе дзеяньне: **памяць павінна быць актыўная.** Даўгавечнасьць грамады, несьмяротнасьць народу — гэта й ёсьць Памяць у дзеяньні. Як уніклива сказаў паэта Ўладзімер Дубоўка, „імкненьні тчэш спрадвеку памяць, даеш жыцьцё, даеш імпэт".

Сяньня, ушаноўваючы памяць Міколы Абрамчыка, Васіля Рагулі й Архіяпіскапа Васіля, мы вайстрэй як звычайна адчуваем, што на фоне гісторыі народу жыцьцё чалавека — гэта імгненьне. Вось-жа Памяць — гэта цымэнт, што злучае гэтыя імгненьні ў вечнасьць. „Я думаю, значыцца я ёсьць", сказаў філёзаф. Парафразуючы яго, мы павінны сказаць сабе: памятаем, значыцца жывём.

І будзем жыць, далучаныя да вечнасьці, пакуль будзе Памяць.

**Янка Запруднік**

# ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ УЛАДЫКУ ВАСІЛЮ



У № 53-ім „Голасу Царквы" — рэлігійна-грамадзкага часапісу праваслаўных Беларусаў за красавік 1980 году было зьмешчанае кароткае паведамленьне: „Кіраўніцтва Парахвіі й Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку паведамляе, што ў 10-ую гадавіну супачыўшага ў Богу Сьветлай Памяці Архіяпіскапа Васіля ў нядзелю 8 чырвеня будзе адслужаная Паніхіда".

І адбылася гэтая Паніхіда, адслужаная а. Расьціславам Войтанкам, а пасьля яе й памінальная бяседа згодна зь беларускай традыцыяй. Апрача Ўладыкі Васіля, адзначалі адначасна й 10-ыя ўгодкі ад сьмерці Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка ды 25-ыя ўгодкі ад сьмерці сэнатара Васіля Рагулі.

І дзіўным здавалася, што ўжо прайшло 10 гадоў і мы працягваем сваё штодзённае жыцьцё. І вось сяньня прынагодна паўстаюць думкі, што турбуюць маё сумленьне. Ды хіба й іншых: ціж-бы забываем конча важнае? Не, мы не забываемся й не забудземся, пакуль будзем жыць. Нязьлічоную колькасьць перахаваў наш розум зафіксаваных абразкоў з таго мінулага. І ўстаюць яны, нібы на экране, зьмяняюцца й плывуць.

Першая мая сустрэча з Уладзімерам Тамашчыкам мела месца ў Беластоку ў часе ваенным у 1944 годзе, калі ён вярнуўся на бацькаўшчыну з Прагі Чэскай, дзе правёў амаль 10 гадоў. І далей успамінаюцца частыя сустрэчы ў Нямеччыне, устае ў памяці той дзіўны, зьменны ды й нялёгкі жыцьцёвы шлях, які вывеў грамадзкага й палітычнага дзеяча абсальвэнта палітэхнікі ў Празе Чэскай з дыплёмам інжынера-агранома, дасьціпнага, жыцьцярадаснага сябру шмат каго з нас, на такі шырокі сьветлы гасьцінец, Усявышнім яму прызначаны: стаца змагаром за Беларускую Нацыянальную Царкву.

Гэта якраз тады, калі нашыя япіскапы БАПЦарквы на чале з архірэем Бэнадыктам пакінулі Беларускую Царкву, шукаючы лепшых выгодаў у Расейцаў і перайшлі пад юрысдыкцыю Расейскай Зарубежнай Царквы, ён — Уладзімер Тамашчык, кіруючыся глыбокім рэлігійным пачуцьцём і нацыянальным патрыятызмам ды прыслухоўваючыся да парадаў ды просьбаў сяброў, якія, як і ён, добра разумелі значаньне нацыянальнае Царквы для беларускае эміграцыі ды й для паняволенае бязбожным камунізмам бацькаўшчыны, сталіся стымулам, які яго, Уладзімера Тамашчыка, на гэты гасьцінец сьціраваў. Беларусы разумелі, што ніякае грамадзтва, у тым ліку й нашае эміграцыйнае ня зможа доўга існаваць без нацыянальнае й маральнае асновы — роднае Беларускае Царквы.

Матарыяльныя абставіны жыцьця ў паваеннай Нямеччыне былі цяжкія, калі мы прабывалі ў ДП-лягерах. Памятаю, як зьнясілены зь Мюнхэну (дзе працаваў у унраўскім унівэрсытэце ды пачаў студыі тэалёгіі на Ўкраінскім Унівэрсытэце) Уладзімер Тамашчык часта прыяжджаў у лягер у Остэргофэн, каб адпачыць, падсілкавацца ды атрымаць і маральнае падтрыманьне ад блізкіх яму сяброў, гэтак яму ў ягонай місыі патрэбнае. А мы, жыхары лягеру ў Остэргофэне, узяўшы прыклад ад кемлівых ад прыроды, зарадных і вытрывалых Паляшукоў (зь якіх у васноўным і складалася нашая там грамада), пачалі гадаваць сьвіней (хай сабе й нелягальна) ды навучыліся рабіць адмысловыя кансэрвы й разьвялі свае агароды. Дык мелі ўсе магчымасьці й дапамагаць іншым Беларусам, высылаючы навет пачкі ў лягеры ваеннапалонных ды хворым на тубэркулёз у санаторыі. Калі адведваў нас Уладзімер Тамашчык, апякаваліся ім найчасьцей сп-ня Ліля Яцкевіч ды я. Хоць цесна было: на сям'ю выпадала па адным пакою, часта невялічкім. Дык вандравалі сп-ня Ліля ў наш пакой з дачушкай, а мужчыны — у ейны. Але хоць у цеснаце, але не ў абідзе. Дык выпраўлялі назад у Мюнхэн нашага гасьця із запасамі й у добрым настроі, запрашаючы адведваць нас узноў.

А пазьней перавезьлі нас у Розэнгайм. Занялі вялізарныя казармы, туды зьехаліся Беларусы з розных лягераў. Вось там і мелі мы нагоду асабіста масава прыняць удзел у працы для Царквы, ейнага абсталяваньня, ейнага прэстыжу й славы.

Вяртаючыся да тэмы, трэба прыпомніць, што на памінках прыгожа выступіў сп. Пётр Манькоўскі із сваім успамінам пра Ўладыку Васіля, зь якім сябраваў тады. Спыніўся ён і на працы ягонай у Амэрыцы пры разбудове тут аўтакефальных парахвіяў. Але не ўспаміналася пра людзей, што так ахвярна, энтузіястычна й масава жанчыны ды тэхнічна абазнаныя з працай мужчыны ўлучыліся ў будову свае нацыянальнае Царквы перад вялікім здарэньнем — Хіратоніяй а. Васіля на Япіскапа. Так моцна мне захацелася зьвярнуць увагу прысутных, паміж якімі толькі адзіночныя асобы былі ўдзельнікамі тых падзеяў, ды прыгадаць пра іхнае існаваньне, асабліва тых, што таксама адыйшлі за сваім Уладыкам у лепшы сьвет. Адважылася я ды падыйшла да стала, дзе сядзелі арганізатары памінальнае акадэміі і папрасіла дазволу прыпомніць пра падзеі ў Розэнгайме. І расказала пра той рэлігійны зрух, калі ўсе разам дружна, як мурашкі, ўлучыліся ў беларускую талаку. Жанчыны шылі харугвы, вышывалі Плашчаніцу, шылі собскаручна аблачэньні, прыбіралі Царкву да ейнага высьвячэньня. Мужчыны будавалі іканастас, рабілі рэчы з мэталю й дрэва: падстаўкі, падсьвечнікі, аналоі, майстравалі цудоўныя мітры.

Я падрабязна расказала пра высьвячэньне Царквы й побыт першы раз у Розэнгайме Япіскапа Сяргея (які прыняў на сябе апеку над нашай асірочанай Аўтакефальнай Царквой) 19-21 жніўня 1949 году. Ягоны прыезд увечары 19-га й спатканьне вучнямі школы й гімназіі Янкі Купалы ,як дзеці пасыпалі кветкі, як віталі, а. Васіль ды царкоўны староста К. Савіцкі, як цудоўна адслужылі Вячэрнюю службу пры ўдзеле хору, кіраванага Міколам Равенскім. Высьвячэньне Царквы імя Мікалая Цудатворцы было ўвечары 20-га, а ў нядзелю пасьля ўрачыстае службы Япіскап Сяргей раздаў пры гэтай нагодзе Багаслаўленыя Граматы й Пахвальныя Лісты 10-цю асобам, а складаў падзяку ўжо а. Васіль 40 асобам за ахвярную працу пры абсталяваньні Царквы ў Розэнгайме. Я навет прачытала тыя імёны (што былі запісаныя ў газэце „Бацькаўшчына", № 16(60) за 5-га кастрычніка 1949). Нажаль, ня ўсе былі там надрукаваныя, а толькі 15 зь ліку больш за 40 — іх таксама прачытала.

І хоць на тварах некаторых з прысутных можна было прачытаць незадавальненьне, што зацягваецца акадэмія ды было й маханьне пальцам, а ўсё-ж мусіла гэта зьганараваць, бо калі-ж, як не на памінках, мог быць зручнейшы й больш адпаведны час успомніць пра тых (хай сабе для некаторых прысутных і незнаёмых), але-ж заслужаных нашых суродзічаў, дзякуючы працы якіх сотні Беларусаў ды й хіба больш за сотню чужых гасьцей першы раз на эміграцыі прынялі ўдзел у такой вялікай ўрачыстасьці — Хіратоніі а. Васіля. Хіратонія Архімандрыта Васіля на Япіскапа адбылася 18-19 сьнежня 1949 году. На ўрачыстасьць прыбылі тры япіскапы: Япіскап Сяргей, Япіскап Платон, сакратар Сыноду УАПЦарквы, і Япіскап Вячаслаў. Апошнія двух з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. У нядзелю 19 сьнежня прыбыло шмат гасьцей і прадстаўнікоў розных нацыянальнасьцяў, якімі было сказана 25 прамоваў.

Калі ўспамінаем Сьв. Пам. Уладыку Васіля, вельмі важна ўспамінаць і ягоную армію дабраахвотных працаўнікоў, якую ўзьняў ён да найбольш магчымага высілку.

Былі й пазьнейшыя ўзнагароды ды Багаслаўленыя Граматы, выдадзеныя ўжо Япіскапам Васілём. Мне давялося, шукаючы здымкаў зь Хіратоніі выпадкова знайсьці й Багаслаўленую Грамату, выдадзеную мне з такім зваротам: „Сябру Цэнтральнага Ўпраўленьня Брацтва Жыровіцкае Божае Маці пры Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Катэдральнай Царкве ў Розэнгайме Сп-ні Зіне Станкевіч Багаслаўленая Грамата. За Вашы выдатныя й высакацэнныя заслугі..." выдадзеная (правільней падпісаная на Вялікдзень 1950 г.) Япіскап Васіль — Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ.

Як-бы добра было ўдакладніць сьпісак тых супрацоўнікаў Уладыкі Васіля, што адыйшлі ,ды ўпамінаць іх штагоду й перахоўваць іхную памяць паміж жывымі вернікамі БАПЦарквы.

А пакульшто прыводжу прозьвішчы, узятыя з газэты „Бацькаўшчына" так, як іх прачытала на памінках: Багаслаўленыя Граматы: 1. Пэньдзе Мікалаю (сьв. пам.), 2. Юрцэвічу Васілю (сьв. пам.), 3. Чыгіровічу Івану, 4. Чайкоўскаму Дзімітру, 5. Равенскаму Мікалаю (сьв. пам.), 6. Вержбаловіч Барбары (сьв. пам.), 7. Памазану Андрэю, 8. Семянчуку Васілю (сьв. пам.), 9. Чэрнік Кляўдыі, 10. Кажан Аўгені (сьв. пам.).

Архімандрыт Васіль падзякаваў за выдатную дапамогу пры абсталяваньні Царквы пералічаным у газэце, якіх было 15 асобаў зь ліку больш за 40. Гэта: 1. Лук'янчык А., 2. Дубяга І., 3. Груцько І., 4. Кабяк М. (сьв. пам.), 5. Арсеньнева Н., 6. Кендыш В., 7. Рагажэцкі М. (сьв. пам.), 8. Кананчук А., 9. Яцкевіч Д. (сьв. пам.), 10. Чэрнік А. (сьв. пам.), 11, Разумейчык А., 12. Тарашкевіч М,. 13, Клінцэвіч Д. (сьв. пам.), 14. Мікуліч М., 15. Місюль Н.

Асаблівая падзяка М. Равенскаму й харыстам.

***

Асаблівае значаньне для аднаўленьня Аўтакефаліі меў Сабор у Канстанцы. Таму, што я асабіста не магла дакладна ўстанавіць ягоных удзельнікаў, зьвярнулася за дапамогай у Кансысторыю БАПЦарквы. У Канстанцы было афармленае пераняцьце апекі над БАПЦарквой Япіскапам Сяргеем. Шуканьне асобы, якая-б гэтую апеку пераняла, закончылася посьпехам. У 1947 годзе палкоўнік Мікола Дзямідаў спаткаўся зь Япіскапам Сяргеем у Канстанцы й парушыў гэтую тэму. І Япіскап Сяргей даў сваю згоду. 5-га чырвеня 1948 году адбылося фармальнае пераняцьце. У афармленьні прыймалі ўдзел упаўнаважаныя да гэтае місыі асобы. Таму, што падтрымка праваслаўных Беларусаў была выказаная перад гэтым актам, лік удзельнікаў Сабору быў абмежаваны. Тады на эміграцыі было шмат дзейных грамадзкіх арганізацыяў, як: Беларускі Нацыянальны Камітэт зь фільяламі для кажнае акупацыйнае зоны й іншыя арганізацыі. Ізь сьвятароў на Саборы былі прысутнымі: пратаярэй Сьцяпан Войтанка, а. Кунцэвіч, прадстаўнікі грамадзтва: Мікалай Дзямідаў, багаслоў Янка Чыжык, д-р Віктар Войтанка, Ніл Краўцэвіч, Барыс Данілюк (прат. Хведар Данілюк ня змог прысутнічаць на Саборы) і іншыя.

Цяпер-жа й у будучыні нам трэба даражыць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой, гуртавацца вакол яе й даваць ёй патрэбную дапамогу.

**Зінаіда Станкевіч**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.**

# САВЕЦКАЯ АГРЭСЫЯ Ў АФГАНІСТАНЕ

Для нас Беларусаў у Вольным Сьвеце не абыякавай зьяўляецца апошняя з чаргі агрэсыя Савецкага Саюзу, гэтым разам у Афганістане. І ня толькі для нас, але таксама й для іншых прадстаўнікоў паняволеных Масквою народаў ды й для аграмаднай бальшыні людзей і ўрадаў краёў цэлага сьвету. Цікавяцца, спачуваюць, абмяркоўваюць сытуацыю ды й дапамагаюць Афгану — чарговай ахвяры савецкае агрэсыі.

Пэўне-ж ,шмат хто з чытачоў добра азнаёмлены з усімі дэталямі ды тактыкай Савецкага Саюзу, але ня ўсе. Дык для тых, што магчыма з прычыны занятасьці прафэсыйнай працай ня мелі магчымасьці пазнаёміцца глыбей з гэтым пытаньнем, карыстаючыся пераважна амэрыканскімі крыніцамі іхных карэспандэнтаў ,і аформіўся гэты артыкул, які хоць і ў скароце, знаёміць зацікаўленых чытачоў зь некаторымі фактамі ды з асэнсаваньнем іх аўтарам.

Памятаючы з памыснай практыкі сваіх многіх агрэсыяў супраць розных краінаў, як-жа часта пад прэтэкстам прыяцельскае дапамогі, Савецкі Саюз і гэтым разам спрабаваў ізноў свае практыкі, першы раз пасьля апошняе ўдачы з Чэхаславаччынай. Падрыхтоўваў задуманую агрэсыю на працягу даўжэйшага часу пры дапамозе спэцыялістых з КГБ. Прыцягваў увагу Саветаў, як магнэс, Афганістан, бо-ж мяжаваў ён із Савецкім Саюзам, які на працягу гадоў заігрываў зь ягонымі лідэрамі, каб убіцца ў давер. Жыцьцёва важным было й тое, што Афганістан межаваў зь Іранам (пастачаньне стуль алівы было фактам неабходна патрэбным для Саветаў і ў сваіх сакрэтных мроях тая аліва хутчэй за ўсё й пхала фанатыкаў экспансыі да акцыі), ды з Пакістанам. Што-ж, і ад Пакістану не адмовіліся-б, узялі-б ахвотна пад сваю „братнюю апеку".

У Афганістане яны дзейнічалі на ўнівэрсытэтах, із спэцыяльнаю ўвагаю да студэнтаў у сталіцы Кабуле, дзе ўплыў марксыстаўскае ідэялёгіі пра стварэньне бясклясавага грамадзтва знаходзіў паміж студэнтамі прыхільнікаў. Пра запраўдную рэчаіснасьць у Савецкім Саюзе ня мелі магчымасьці студэнты даведацца. Калі ціск на ўрад Афгану не даваў адпаведнага выніку хутка, як-бы Саветам хацелася, ды пачаліся паўстаньні супраць ураду, што ўсё больш падпадаў пад кантроль Саветаў, у правінцыях, дзе пераважалі кансэрватыстыя, узмоцнілася й дзейнасьць Саветаў. Часьцей здараліся забойствы, шантажаваньне ды непаладкі з урадам, што прывялі да забойства прэзыдэнта Афганістану Магамэта Таракі, які быў прыхільнікам Саветаў. Урад ачоліў Гафізуля Амін. Ён ня стаўся паслухмяным служкаю савецкіх дараднікаў і ня даў дазволу Савецкаму Саюзу ўвесьці ў Афганістан ягоных збройных сілаў. А калі на апошнюю спробу 24 сьнежня 1979 г. перакананаць урад дазволіць увесьці войска, адказ ягоны быў — „не", гэтай самай ночай савецкія самалёты пачалі прызямляцца на аэрадроме ў Кабуле. Ад 24 да 27 сьнежня было ўжо 350 савецкіх самалётаў у Кабуле. А 27 сьнежня яны захапілі палац, дзе знаходзіўся Амін, і забілі яго й усю ягоную сям'ю. У сталіцы захапілі ў першую чаргу радыястанцыю. Не дастатковым быў супраціў афганскай арміі, хоць забітых з боку Саветаў было 250 асобаў. На другі дзень сталіца была ў руках Саветаў.

Паводля меркаваньняў Саветаў, час агрэсыі быў адпаведным: з прычыны заабсэрбаваньня Задзіночаных Штатаў здарэньнямі ў Іране, дзе якраз была студэнтамі марксыстымі захопленая амэрыканская амбасада, а ейныя працаўнікі былі ў ёй трыманыя закладнікамі.

У Афганістане прэзыдэнтам стаўся Бабрак Кармал, марксысты ды верны слуга Саветаў, якога афганскі народ уважае за здрадніка. Ён ёсьць прэзыдэнтам і да сяньня.

Сыстэматычна наплывалі савецкія вайсковыя адзінкі: танкі, грузавікі із жаўнерамі, будаўляныя матарыялы на баракі і ўсё больш самалётаў. Колькасьць савецкай арміі хутка расла. У сакавіку 1980 г. яна налічвала ўжо 80 тысячаў жаўнераў ды 30 тысячаў на граніцы Саветаў з Афганам ,лік савецкіх дараднікаў 5 тысячаў (перад агрэсыяй усяго 350), а паміж тымі „дараднікамі" пераважалі спэцыялістыя КГБ.

На даўгі побыт плянавала Масква ў Афганістане, хоць у прэсе й на словах прадстаўнікі Саветаў ды й сам Леанід Брэжнеў усё яшчэ й да сяньня паўтараюць, што яны „працягнулі братнюю руку" сваім саюзьнікам на іхныя запросіны, ды хутка пакінуць Афган. А рэчаіснасьць, падгледжаная дзесяткамі рэпартэраў з розных краінаў сьвету, сьцьвярджае: масавае нішчэньне вёсак, масавае забойства жыхарства, перапоўненыя турмы людзьмі бяз суду, масавыя экзэкуцыі.

Але ёсьць і пазытыўныя весткі для паўстанскага абароннага руху: з 80.000 афганскай арміі засталося вернымі кантраляванаму Саветамі ўраду толькі менш за 20.000 жаўнераў, іншыя-ж улучыліся поплеч з паўстанцамі ў вабарону свае зямлі. А жаўнеры, што засталіся, усьцяж уцякаюць ,а тая рэшта, што яшчэ ёсьць, катэгарычна адмаўляецца страляць на паўстанцаў і стала пераходзіць на іхны бок.

Шмат уцекачоў, пераважна жанчынаў зь дзецьмі прытуліў суседні Пакістан. Больш за 700.000 перайшло граніцу Пакістану, дзе ўздоўж яе жывуць у палатках. І іх, гэтых пакутніц зь дзецьмі, абстрэльваюць савецкія самалёты ды пускаюць на іх атрутны газ. А мужчыны „Муджагідзіны" — Мусульмане, што ў перакладзе значыць „сьвятыя ваякі", запамяталі адно: бараніць сваю незалежнасьць і быць гатовымі памерці за свой край.

Добра памятаюць сваю гісторыю Афганцы: перажылі яны паняволеньне Аляксандрам Вялікім у 4-ым стагодзьдзі перад Нараджэньнем Хрыста, Джынгіс Ханам у 13-ым стагодзьдзі ды стаўшыся пазьней буфэрам паміж царскай Расеяй і імпэрскай Вялікабрытаніяй. Афганістан выкупліваў і выкупліваe й сяньня сваю незалежнасьць собскай крывёй. Цяпер яны паміраюць у прапорцыі шэсьць да аднаго савецкага жаўнера. Колькі іх ужо лягло, вылічыць лёгка, калі пададзена, што савецкіх жаўнераў гіне 500 на тыдзень.

Малітва Афганцаў на сяньня кароткая, яна складаецца з трох словаў: „Божа! Пракляні Расейцаў!" — "Shoravi Padar Lanath," — яе выгрыкваюць і паўтараюць усе: бедната ў гарадох, паўстанцы ў горах, купцы ў сваіх магазынах у сталіцы Кабул ды іншых гарадох. Ёю вітаюцца, ёю разьвітваюцца, ёю спатыкаюць раніцу й канчаюць цяжкі дзень і зь ёю паміраюць бяз страху, бо гэтак вучыць іх рэлігія. А ў горах чакае новая зьмена паўстанцаў у ліку паўмільёна дабраахвотнікаў, а за імі другія паўмільёна. Але нястача вялікая ў іхнай зброі (ручна зробленых вінтовак, бо толькі гэткую зброю й маюць), а найбольшай нястачай — ежа: менш змаглі пасеяць у гэтым годзе, менш сабраць, менш людзей працуе на полі пад абстрэламі. Паміраюць з голаду „сьвятыя ваякі" й праз рэпартэраў з усяго амаль сьвету просяць дапамогі ў харчох, у тым ліку просяць і Амэрыку. Магчыма, што хутка гэтае падтрыманьне знойдуць.

І ўстаюць у памяці нашыя Случчакі. І яны паміралі за бацькаўшчыну, не шкадуючы свайго маладога жыцьця, а маткі не паўстрымоўвалі іх, прыносячы самую балючую ахвяру для свае старонкі — сваіх дзяцей. Ня мелі Слуцкія Паўстанцы прыязных да свае справы суседзяў, як маюць іх Афганцы, ня мелі недаступных гораў, што паслужылі-б ім прытулкам. Яны паміралі ціха, гэтак як Афганцы. Слуцкае Паўстаньне засталося назаўсёды ў гісторыі Беларусі (хай сабе называнае Саветамі, як называюць яны сяньня й Афганскае — „бандытызмам", а гэрояў змагароў — „бандытамі"). І паўстаньне ў Афганістане застанецца ў памяці ды ня толькі Афгану, але й усяго сьвету.

Паміраюць і савецкія жаўнеры, а між імі й Беларусы, Украінцы, мусульмане із савецкіх саюзных і аўтаномных рэспублікаў ды й, хоць ашчадна высыланыя ў Афганістан, Расейцы. Паміраюць не ў вабароне свае роднае зямлі, паміраюць за фантастычную хвараблівую мару савецкіх верхаводаў да апанаваньня цэлага сьвету. Паміраюць ня ў часе вайны (як ім гэта ўбілі ў галаву), а ў часе міру. Іх параненых не пасылаюць на радзіму, каб прыхаваць страты, а ў Усходнюю Нямеччыну, дзе яны, не пабачыўшы апошні раз родных, там і паміраюць ,а на бацькаўшчыну вяртаюцца ў трунах.

Пра прысутнасьць Беларусаў у савецкай арміі ў Афганістане ўдалося мне сьцьвердзіць з прыведзеных далей двух выпадкаў, дзе яны былі, як гэткія, г. зн. як Беларусы, названыя. Асабліва рашчульвае другі выпадак, калі падаюцца словы парашутыстага Беларуса ў лірычных вершах на тэму сьмерці ў мірным (паводля аўтара) часе. Перагледзеўшы ўсе нумары часапісу „Тайм", гэты быў адзіны такі нарыс і ён быў пра Беларуса. Пра іншых удзельнікаў, загінулых там, ніякіх вестак я не знайшла.

**Зінаіда Аўсянік**

***

**Першы выпадак:** Маркус Эліясон — карэспандэнт агенцтва Асошыэйтэд Прэс у паведамленьні з гораду Гэйратану ў Афганістане (як падала газэта „Вашынгтон Пост" за 7 лютага 1980) піша:

„Саветы, як выглядае, усьведамляюць сабе, што яны маюць паважную праблему з тым, як на іх глядзяць Афганцы. Расейскія салдаты, што абшуквалі вонках Кабулу пасажыраў аўтобуса, ці няма ў іх зброі, былі ветлівыя блізу да балючасьці. Адзін зь іх нат выклікаў у старэйшага Афганца ўсьмешку, запяяўшы яму колькі словаў зь беларускае народнае песьні ў часе перагляданьня багажу барадатага тубыльца".

**Другі выпадак:** паводля часапісу „Тайм" за 7 красавіка сёлета:

„У запісной кніжачцы, бяз прозьвішча собсьніка, якую знайшлі афганістанскія паўстанцы ў памерлага савецкага парашутыстага, што стацыянаваў у Мадзяршчыне ,было некалькі вершаў ды рысункі каляровымі алаўкамі. У нататніку згадваўся горад Віцебск, што на Беларусі, зь якім быў зьвязаны аўтар верша. У вершах выказвалася думка пра сталую ды так блізкую прысутнасьць сьмерці". Адзін з вершаў, надрукаваных у „Тайм"-е, перакладзены на ангельскую мову працаўнікамі часапісу „Тайм" Давідам Айкманам ды рэпартэрам-дасьледнікам Джонам Коганам, у вольным перакладзе на беларускую мову прыводзім поўнасьцяй:

## Я АД'ЯЖДЖАЮ

Я ад'яжджаю ,сказаў хлапец
ёй у роспачы.
Не на доўга
Чакай мяне і я
Вярнуся.

Ён адыйшоў, ніколі ня сустрэўшыся
зь ягонай першай вясной.
Ён вярнуўся дамоў
У жаўнерскай мэталёвай труне.

Ён не дажыў гадзіны
да сьвітаньня.
Ён упаў на грудзі і прыкрыў
зямлю сваімі ранамі.

Ён упаў на грудзі ня ў часе
вайны, але міру,
Калі вясна запальвала зоркі
каханьня для нас.

Матка галосіць, а бацька
стаіць як цень.
Для іх ён быў вельмі
маладзенькі хлапец.

І колькі-ж іх, што яшчэ
не зрабілі першага кроку ў
жыцьці,
Вярнуліся дамоў у жаўнерскай
мэталёвай труне?

І аднойчы, калі ён ішоў
з сваёй дзяўчынай,
Ён даў ёй кветкі
І зайграў ёй песьню на сваёй
гітары.

І навет тады ў тую хвіліну, калі
сьнег пачаў раставаць,
Ён запісаў крывёй на ім імя
гэтай маленькай дзяўчыны.

Вецер намятае пушысты сьнег
на магіле.
Тая дзяўчына пайшла
з другім юнаком.

Тая дзяўчына ,што абяцала:
„я буду чакаць".
Сьнег растаяў і зьнікла
зь ім імя.

# СТРАЙКУЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ РАБОТНІКІ Ў МЕНСКУ

Украінская газэта „Свабода", што выходзіць у Джэрзі Сіты, Н. Дж., у сваім 143 нумары за 26 чырвеня сёлета зьмясьціла наступную інфармацыю з аўстрыяцкай сталіцы Вены, якая асабліва важная для нас Беларусаў. Дзеля гэтага інфармацыю ўкраінскае газэты ніжэй перадрукоўваем амаль поўнасьцяй:

„Хаця колькасьць эмігрантаў із СССР у Ізраэль значна зьменшылася, усё-ж такі ў перасыльных пунктах у Вене, дзе знаходзіцца першае іхнае прыстанішча пасьля выезду із СССР, заўсёды знаходзяцца людзі, якія добра зарыентаваныя ў падсавецкім жыцьці й у тэндэнцыях ягонага разьвіцьця. Новапрыбылыя пацьвярджаюць інфармацыі пра фэрмэнты сярод работнікаў ды пра спробы іхных кіраўнічых элемэнтаў арганізавана дабівацца сваіх праvоў.

Апошнім часам у Вену прыбыў зь Беларусі Уладзімер Барысаў, дзе ён працаваў у прафсаюзным руху. Барысава „выкінулі" за мяжу ў вагульнай „ачышчальнай акцыі" перад Алімпійскімі іграмі ў Маскве. Барысаў быў натаваны ў КДБ як дысыдэнт, як чалавек, што мае собскую думку, яе выказвае й бароніць. Таму, хоць ён быў працаўніком прафсаюзнай сыстэмы, яму запрапанавалі выбар: выехаць за мяжу або пайсьці пад суд.

Згодна зь інфармацыямі Барысава, работніцкі рух у СССР разьвіваецца па дзьвюх лініях: з аднаго боку гэта рост актыўнасьці сярод работнікаў, высоўваньне імі патрабаваньняў палепшаньня бытавых абставінаў, спыненьня партыйнага й адміністрацыйнага ціску, а з другога боку тварэньне незалежных арганізацыяў, пераважна прафсаюзнага тыпу. Сам Барысаў быў сябрам гэткага прафсаюзу, які называўся Вольным Міжпрафэсыйным Аб'еднаньнем, што складалася зь дзесяцёх аддзелаў і траха панад 200 сяброў. Паўтара месяца таму якраз гэтае Аб'еднаньне зарганізавала страйк у Менску. Пра гэты страйк, як і пра гэнае работніцкае Аб'еднаньне да апошняга часу на Захадзе ня было ведама".

Ёсьць усе асновы думаць, што падобныя работніцкія страйкі й спробы тварэньня незалежных арганізацыяў прафсаюзнага тыпу існуюць ня толькі ў Менску, а й у іншых гарадох Беларусі. Гэта, разам з дысыдэнцкім і самвыдавецкім рухам на Беларусі, пераконлівыя довады, што незадавальненьне камунізмам і савецкім рэжымам на Беларусі моцна разьвітыя й прыносяць бальшавіком вялікія клопаты.

# XIV-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

**30 жніўня — 1 верасьня 1980 г.**
**у Кліўленьдзе, Огаё, ЗША.**

Сустрэча будзе прысьвечаная:

1. **30-годзьдзю беларускай калёніі ў Кліўленьдзе;**
2. **450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага;**
3. **Абароне людзкіх і нацыянальных правоў у Беларусі;**
4. **30-годзьдзю газэты „Беларус".**

Праект Праграмы:

**СЫБОТА, 30 жніўня:**

7-12 гадзіна ўраньні: рэгістрацыя й разьмяшчэньне гасьцей;
12-6 гадзіна папаўдні: нарады й паседжаньні арганізацыяў, спартовыя змаганьні, выстаўкі (на селішчы Полацак).
А 1-ай гадзіне папаўдні: Зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.
2-5 гадзіна папаўдні: Канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прысьвечаная Літоўскаму Статуту (у Кліўлендзкім Штатавым Унівэрсытэце).
9-я гадзіна ўвечары: Вечарына.

**НЯДЗЕЛЯ, 31 жніўня:**

10-я гадзіна ўраньні: Служба Божая ў Катэдральным Саборы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦарквы.
1:30 гадзіна папаўдні: Б А Н К Е Т.
4-я гадзіна папаўдні: К А Н Ц Э Р Т у залі Сярэдняе Школы (праз вуліцу ад селішча Полацак), Выстаўка народнага мастацтва.
9-ая гадзіна ўвечары: Танцавальная Вечарына.

**ПАНЯДЗЕЛАК , 1-га верасьня:**

8-я гадзіна ўраньні: нарады БАЗА, ЗБК ды іншых арганізацыяў.

Усе імпрэзы Сустрэчы, за выняткам Канфэрэнцыі БІНіМ-у, будуць адбывацца на селішчы Полацак.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й Згуртаваньне Беларусаў Канады ветліва запрашаюць усіх Суродзічаў прыняць удзел у Сустрэчы.**

**Тэлефон ПОЛАЦКУ: (216) 238-3842.**

# ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў чырвені 1980 году былі атрыманыя ад наступных ахвярадаўцаў сумы: Беларусакае Аб'еднаньне ў Новай Паўдзённай Валіі ў Аўстраліі за пасярэдніцтвам сп-ні А. Каранеўскай: $ 114.22; Беларуская Грамада ў Скандынавіі за пасярэдніцтвам сп. Я. Федарчука: $100.00; Сп-ва Ванды й Міхася Махначоў $50.00; сп. Д. Касмовіча — $10.00; **усяго разам у чырвені 1980 году — $ 274.22; разам з папярэднімі й банкавымі працэнтамі $ 4,296.89.**

Усім Паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

# ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАНЬНЕ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ НА СТАГОДЗЬДЗЕ ЯНКІ КУПАЛЫ!

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ**
**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД**
**„Б Е Л А Р У С А"**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ Ў ЧЫКАГА



**Трэйці зьлева старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага Васіль Пунтус, першы зьлева інж. Іван Касяк, дакладчык. Рэшта госьці.**

**Фота Нікадэма Жызьнеўскага**

Беларускае грамадзтва Чыкага й аколіцаў урачыста адзначыла 62-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі сьвяточнай акадэміяй 30 сакавіка сёлета.

Пасьля прынагодных рэлігійных службаў у Беларускай Праваслаўнай Царкве Сьв. Юр'я й у Беларускай Каталіцкай Царкве Хрыста Збаўцы прысутныя Беларусы й госьці зьйшліся ў залі Рэджэнсі Ін. Праграмай сьвяткаваньня кіраваў удала сп. Жызьнеўскі Нікодэм, кіраўнік беларускіх радыяперадачаў „Нёман". Акадэмія пачалася прапяяньнем сп-няй Верай Рамук амэрыканскага гімну пад акампаньямант Ірэны Рамук. Уступную малітву сказаў а. Архімандрыт Уладзімер Тарасэвіч настаяцель Беларускай Каталіцкай Царквы Хрыста Збаўцы, просячы Ўсемагутнага ўспамагаць беларускі народ у ягоным змаганьні за свае нацыянальныя правы. Сьледам за малітвай старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага Васіль Пунтус прывітаў прысутных із сьвятам незалежнасьці, выказваючы надзею, што ідэялы Вялікага Сакавіка хутка зьдзейсьняцца ў будучыні. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць гэрояў, што загінулі ў змаганьні за Беларусь.

Тады быў пададзены абед, у часе якога былі чуваць беларускія песьні й мэлёдыі прыцішаным тонам з гукавой сыстэмы. Афіцыяльная праграма пачалася дакладам на тэму „Незалежнасьць Беларусі", прачытаным Вандай Джой, дачкой Доктарства Гайдзеляў. Маладая прэлегэнтка зьвярнулася да беларускай моладзі, узгадаванай у амэрыканскіх школах, у прыгожай беларускай мове, заклікаючы яе вывучаць і захоўваць родную мову, што мае сьветлую й непаўторную мінуўшчыну, як і згадала аб гэтым у сваім рэфэраце паангельску.

Трэйцяя з чаргі Біблія, пасьля нямецкай і чэскай, была перакладзеная на беларускую мову Францішкам Скарынам, а Статут Вялікага Княства Літоўскага пабеларуску вызначаўся сваёй яснасьцяй і прэцызыйнасьцяй ды іншыя культурныя набыткі, што жывяць і насычаюць нашую гісторыю ды сьветчаць аб высокім росквіце нашай культуры, — казала дакладчыца. Трэба зазначыць, што рэфэрат Ванды Джой быў падрыхтаваны на высокім узроўні й зрабіў вельмі вялікае ўражаньне на прысутных.

Праклямацыя бурмістра гораду Чыкага сп-ні Джэйн Бэрн, у якой яна прыгожа заценіла, што ідэя 25-га Сакавіка глыбака ляжыць у сэрцах Беларусаў, была прачытаная Аннай Вайманк. Выдадзеная губэрнатарам штату Іліной сп. Тампсанам Праклямацыя, што падчырквала значаньне Акту 25-га Сакавіка, была прачытаная Янкам Рамуком.

Ад запрошаных гасьцей выступіў з прамовай Джэймс Паркэр, прадстаўнік кангрэсмэна Анунцыё, які падчыркнуў вялікае значаньне культурнай спадчыны, як жыцьцядайнай крыніцы ,якую трэба перадаваць сваім дзецям. Сп. Вэтровік, прадстаўнік штатавага пасла Вольфа, прачытаў рэзалюцыю, выдадзеную штатавым парлямантам з нагоды 25-га Сакавіка. Ад Лятувісаў выступаў сьвятар Прунскіс, кажучы, што Беларусы й Лятувісы ў мінуўшчыне тварылі найбольшую дзяржаву ў Эўропе й мелі супольную дзяржаўную эмблему. Цяпер-жа Беларусы й Лятувісы перажываюць жахлівае паняволеньне камунізмам, але прыйдзе час вызваленьня, — казаў прамоўца. Сваю прамову ён закончыў пабеларуску словамі: „Няхай жыве Незалежная Беларусь!"

З прывітальным словам ад Украінцаў выступіў Д-р Харкевіч, зазначаючы, што Беларусы й Украінцы супольна змагаліся й змагаюцца за свае нацыянальныя правы.

Ад Палякаў прамаўляў сп. Гарцай, прыгадваючы змаганьне беларускага народу за свае апрычоныя правы й адначасна выказваючы чэсьць беларускім гэроям, што аддалі жыцьцё за свой народ.

Сьледам за прамовамі былі прачытаныя прывітаньні ад Беларускай Цэнтральнай Рады, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Беларускага Кангрэсавага Камітэту, Згуртаваньня Беларусаў Канады, Беларускага Вызвольнага Фронту ў Клійленьдзе, Беларускага Вызвольнага Фронту ў Нямеччыне, ад беларускіх прадстаўнікоў у Каліфорніі, Каляраада, Флярыдзе, а таксама ад Казакаў у Чыкага.

Даклад на тэму дня прачытаў інж. Іван Касяк, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Амэрыцы. Ён трапна прадставіў змаганьне беларускага народу ад ягонага першага гістарычнага выступленьня праз пляменныя войны да выразнага дзяржаўнага афармленьня, праз залаты пэрыяд дзяржаўнага й культурнага росквіту да палітычнага заняпаду й паняволеньня царскай Расеяй. Але гэта не зламала народнага духа, што выявіўся сваёй стыхійнасьцяй у сялянскіх паўстаньнях 19-га стагодзьдзя, укаранаваньнем якіх было паўстаньне пад правадырствам Кастуся Каліноўскага з палітычнай праграмай, вылажанай у выдаванай ім „Мужыцкай Праўдзе", — казаў прэлегэнт. Нашаніўская пара разбудзіла прыгнечаныя няволяй масы ўва ўсіх дзялянках жыцьця. Рэвалюцыя 1917 году, — казаў дакладчык, — узварухнула беларускі народ, які стыхійна падняўся на сваю нацыянальную рэвалюцыю, якая ўкаранавалася Актам 25-га Сакавіка — Абвешчаньнем Незалежнасьці Беларусі.

Нажаль, цяжкая доля была наканаваная маладой рэспубліцы. Стварэньне псэўдадзяржаўнасьці ў форме БССР не задаволіла беларускага народу, які заманіфэставаў сваю волю ў Слуцкім ды іншых паўстаньнях. Ціхае змаганьне разьвівалася далей у вабедзьвюх частках падзеленай Рыскім трактатам Беларусі. 30-ыя гады прынесьлі жахлівы разгром нацыянальнага жыцьця ў БССР. Другая сусьветная вайна несла нэкаторыя надзеі на ўрэгуляваньне долі Беларусі. Другі Беларускі Кангрэс у чырвені 1944 году намагаўся стаць на пазыцыях Акту 25-га Сакавіка. Але далейшы лёс гэтых намаганьняў ведамы. Змаганьне беларускага народу разьвіваецца далей і будзе разьвівацца, пакуль ня зьдзейсьняцца ідэялы, пакладзеныя ў васнову Акту 25-га Сакавіка, — закончыў дакладчык.

Адразу пасьля дакладу быў прапяяны ўсімі прысутнымі беларускі нацыянальны гімн. Далей выступіла сп-ня Маеўская, дэклямуючы два рэлігійныя вершы, а сп. Маеўскі вітаў прысутных ад евангельска-баптыйскага брацтва. Адначасна ён паведаміў аб выхадзе беларускага рэлігійнага сьпеўніка й уручыў адзін ягоны экзэмпляр а. Архімандрыту Ўладзімеру Тарасэвічу, а другі экзэмпляр сп. Н. Жызьнеўскаму.

Вакальна-музычная частка пачалася ўдалым адыграньнем двух нумароў Людмілай Кулагінай „Люблю наш край" і „Для Алесі". Поля Брэжнёва й Оля Шукіна прыгожа выканалі песьні „О, Беларусь, мая шыпшына" й „Васількі" кампазыцыі Міколы Куліковіча пад акампаньямант акардыяністага Язэпа Мала. Міхась Каленік прадэклямаваў два вершы „О край родны, край прыгожы" й „Ты мой брат, каго зваць Беларусам". Далей Поля Брэжнёва прапяяла „Ой зарадзілі" й „Што за месяц" ды „Цераз сад вінаград" у вапрацаваньні Міколы Куліковіча. Наапошку Поля Брэжнёва й Оля Шукіна вельмі ўдала выканалі песьню „Ой поле, ты поле'.

У канцавой малітве а. Варнава Саньчык зь Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я дзякаваў Усемагутнаму за Ягоныя ласкі й прасіў Ягонай помачы ў будучыні. Тады ўсе прысутныя прапяялі беларускі рэлігійны гімн „Магутны Божа".

Акадэмію закончыў кароткім словам старшыня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага Васіль Пунтус, дзякуючы ўсім прысутным за ўшанаваньне нацыянальнага сьвята ды ўсім тым, што сваім укладам спрычыніліся да зарганізаваньня акадэміі, а таксама ўсім дакладчыкам і выканальнікам мастацкай праграмы.

**Д-р В. Р.**

# ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ ГАДОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР У АЗН

Сёлета споўнілася 35 гадоў ад часу заснаваньня Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Беларуская ССР, як ведама, была аднэй зь дзяржаваў — заснавальніцай гэтае арганізацыі. У сувязі з гэтым варта спыніцца на значаньні належаньня БССР да АЗН.

Да гэтага часу дакладна так і ня ведама, чаму ў канцы Другой сусьветнай вайны сталінскае кіраўніцтва ССР паставіла перад заходнімі краінамі патрабаваньне ўвесьці Беларускую й Украінскую ССР у АЗН.

На Захадзе пераважае думка, што Сталін хацеў атрымаць для сябе больш галасоў у гэтай міжнароднай арганізацыі. Але сталінскае кіраўніцтва магло мець для гэтага й іншыя матывы. Паплечнік лідара камуністычнай Югаславіі Ціта й пазьнейшы ягоны крытык Мілаван Джыляс у ўспамінах пра свае сустрэчы й гутаркі із Сталінам пісаў, прыкладам, што ў Сталіна быў плян вылучыць Беларусь і Украіну із складу СССР, каб выкарыстаць гэтыя рэспублікі як прылады для хутчэйшай саветызацыі суседніх усходня-эўрапейскіх краінаў, якія павінны былі ўвайсьці ў сфэры савецкага ўплыву. Як пісаў Джыляс, паводля гэтага сталінскага пляну вылучаная із СССР Беларусь павінна была ўвайсьці ў плянаваную новую фэдэрацыю дзяржаваў, у якую, апрача Беларусі, ўвашлі-б таксама Польшча й Чэхаславаччына й у якой Беларусь павінна была-б выконваць ролю каталізатара ў справе саветызацыі прыгаданых дзьвюх краінаў. Ня выключана, што праблема саветызацыі аддадзеных пад кантроль Масквы сярэдня- й паўдзённа-эўрапейсікх краінаў магла быць прынамся аднэй з прычынаў увядзеньня Беларусі й Украіны ў склад АЗН. Прыклад савецкіх саюзных рэспублікаў, пазбаўленых ня толькі практычных, але й фармальных атрыбутаў нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці, ня мог не насьцярожваць народаў суседніх эўрапейскіх краінаў, ня мог ня дэманстраваць ім наглядна таго, якая доля можа напаткаць іх пад уладай Крамля. Маглі таксама быць і іншыя прычыны, прыкладам, жаданьне Масквы прымірыць із савецкай уладай жыхарства Беларусі й Украіны, якое ў часе вайны не хавала сваёй нянавісьці да злачыннага сталінскага рэжыму.

Савецкая афіцыйная вэрсыя прычынаў увядзеньня Беларускай і Украінскай ССР у АЗН — іншая. Паводля яе, партыя й урад, дамагаючыся для Беларусі й Украіны права на ўдзел у АЗН, кіраваліся як быццам толькі вялікімі стратамі й заслугамі гэтых рэспублікаў у вайне супраць гітлераўскай Нямеччыны, а таксама імкненьнем партыйнага кіраўніцтва пашырыць сувэрэнныя, галоўным чынам вонкава-палітычныя правы гэтых савецкіх саюзных рэспублікаў.

Падамо тут афіцыйную савецкую храналёгію захадаў і юрыдычных актаў, зьвязаных з афармленьнем Беларускай ССР як дзяржавы-заснавальніцы АЗН, спынімся на ступені выкананьня гэтых юрыдычных актаў і прасочым некаторыя зьмены, якія адбыліся ад таго часу ў юрыдычным статусе саюзных рэспублікаў.

Паводля савецкай вэрсыі, пытаньне пра ўдзел прадстаўнікоў беларускай і ўкраінскай савецкіх саюзных рэспублікаў у працы Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў было пастаўленае савецкай дэлегацыяй на папярэдніх перамовах пра стварэньне АЗН, якія адбываліся ў 1944-ым годзе ў Думбартан-Оксе. Абмеркаваньне гэтага пытаньня было працягнутае ўрадамі СССР, ЗША й Вялікабрытаніі на Ялтанскай канфэрэнцыі ў лютым 1945 году. На гэтай канфэрэнцыі была дасягнутая прынцыповая згода аб прадстаўніцтве дзьвюх із 16-ці савецкіх рэспублікаў у АЗН, якраз Беларусі й Украіны. Пасьля адкрыцьця канфэрэнцыі Задзіночаных Нацыяў у Сан Францыска 26 красавіка таго-ж году савецкая дэлегацыя паставіла на ёй пытаньне аб уключэньні ў лік заснавальнікаў АЗН Беларусі й Украіны. Савецкі прадстаўнік гаварыў пра быццам сувэрэнны характар БССР і УССР, якія як быццам маюць права выйсьці із СССР, а таксама пра тое, што Беларуская й Украінская ССР выставілі (кажная паасобку) да мілёну жаўнераў у Чырвоную армію й што гэтыя рэспублікі былі першымі ахвярамі нападу гітлераўскай арміі. Пастанова пра ўключэньне Беларускай і Украінскай ССР у лік заснавальнікаў АЗН была прынятая санфранцыскай канфэрэнцыяй аднагалосна. 6 травеня 1945 году дэлегацыя БССР прыбыла ў Сан Францыска й улучылася ў працу канфэрэнцыі АЗН.

Відаць, для стварэньня канстытуцыйных перадумоваў для ўвядзеньня савецкіх саюзных рэспублікаў у АЗН былі зробленыя зьмены ў савецкіх саюзнай і рэспубліканскіх канстытуцыях. 10-ая сэсыя Вярхоўнага Савету СССР на пачатку 1944 году прыняла пастанову пра пераўтварэньне саюзных наркаматаў абароны й замежных справаў у саюзна-рэспубліканскія наркаматы. Адносна гэтага пытаньня першага лютага 1944 году на сэсыі Вярхоўнага Савету СССР выступіў тагачасны намесьнік старшыні Савету міністраў і міністар замежных справаў СССР Вячаслаў Молатаў. Ён гаварыў:

„Перад Вярхоўным Саветам пастаўленае пытаньне пра перабудову двух наркаматаў... Савет Народных камісараў уважае гэтае пытаньне цалком насьпелым. Тут справа ня ў звычайнай рэформе двух наркаматаў. Справа йдзе перш за ўсё пра пастаноўку новых адказных заданьняў перад саюзнымі рэспублікамі. Пастаўленае пытаньне пра новыя заданьні й новыя правы саюзных рэспублікаў ... і, у сувязі з гэтым, пра важныя рэформы ў нашай саюзнай дзяржаве".

„Наш саюзны ўрад, — гаварыў далей Молатаў, — прапануе надаць саюзным рэспублікам паўнамоцтвы ўступаць у беспасярэднія сувязі із замежнымі дзяржавамі, падпісваць зь імі ўмовы. Значаньне прапанаванай перабудовы зусім відавочнае, — тлумачыў Молатаў. Гэтая перабудова азначае вялікае пашырэньне дзейнасьці саюзных рэспублікаў, якое сталася магчымым у выніку іхнага нацыянальнага разьвіцьця. У гэтым ня можна ня бачыць новага важнага кроку ў практычным вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў шматнацыянальнай савецкай дзяржаве..."

„Ёсьць, прыкладам, нямала спэцыфічных эканамічных і культурных патрэбаў у саюзных рэспублікаў, — гаварыў далей Молатаў, — якія ня могуць быць цалкам ахопленыя агульнасаюзным прадстаўніцтвам за мяжой, а таксама пагадненьнямі Савецкага Саюзу зь іншымі дзяржавамі. Гэтыя нацыянальныя патрэбы рэспублікаў могуць лепш задавальняцца шляхам беспасярэдніх зносінаў з адпаведнымі дзяржавамі... Бясспрэчна, што пытаньне пра выхад на вонкавую арэну дзейнасьці мае для шэрагу рэспублікаў жыцьцёва важнае значаньне..."

„Прапанаваная перабудова Народнага камісарыяту замежных справаў і Народнага камісарыяту абароны зьяўляецца новым крокам наперад у вырашэньні нацыянальнага пытаньня ў Савецкім Саюзе". — сказаў Молатаў.

Сэсыя Вярхоўнага Савету СССР на пачатку 1944 году, зразумела, прыняла (ня прыняць яна не магла) запрапанаванае пашырэньне дыпляматычных і абаронных функцыяў нацыянальных рэспублікаў. 24 сакавіка таго-ж году шостая сэсыя Вярхоўнага Савету Беларускай ССР першага скліканьня, якая адбывалася тады яшчэ ў Гомелі, прыняла закон пра стварэньне Народнага камісарыяту замежных справаў БССР, які 26 сакавіка быў перайменаваны ў міністэрства замежных справаў БССР. Былі ўнесеныя адпаведныя дапаўненьні ў канстытуцыю БССР.

Мінулі тры з палавінаю дзесяцігодзьдзі ад часу прыняцьця гэтых дапаўненьняў у савецкую канстытуцыю. За гэты час савецкія саюзныя рэспублікі, у тым ліку й Беларуская ССР, дасягнулі большага ў параўнаньні з ваенным часам эканамічнага і культурнага ўзроўню, большага нацыянальнага разьвіцьця й такім чынам, ужыўшы зацытаваныя тут словы Молатава, узрасьлі яшчэ больш і іхныя патрэбы шырэйшых беспасярэдніх сувязяў із замежнымі дзяржавамі. Тымчасам, партыйнае кіраўніцтва СССР ня толькі не ажыцьцявіла ў поўным абыйме абвешчанага ў 1944 годзе пашырэньня правоў рэспублікаў у галіне вонкавых дачыненьняў і абароны, але павярнула сваю палітыку ў вадваротны бок, назад. У галіне абароны ня былі навет створаныя адпаведныя рэспубліканскія міністэрствы, што адразу-ж паказала крывадушнасьць заяваў Масквы пра ейны намер на справе пашырыць правы рэспублікаў. Мала таго, з новай савецкай канстытуцыі артыкул аб праве рэспублікаў на стварэньне собскіх вайсковых фармацыяў наагул выкінуты.

Беларуская ССР не абмянялася дыпляматычнымі прадстаўнікамі зь ніводнай замежнай дзяржавай, хоць, прыкладам, Вялікабрытанія прапанавала сваім часам гэткі абмен. У новай канстытуцыі БССР, як і ў канстытуцыі СССР, з артыкулу, у якім гаварылася аб праве Беларускай ССР „уступаць у **беспасярэднія** зносіны із замежнымі дзяржавамі, заключаць зь імі ўмовы й абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўніцтвамі", слова „беспасярэднія" было выкінутае, бо імпэрыяльны цэнтальны ўрад, відаць, уважае, што інтарэсы рэспублікаў заграніцай могуць быць лепш прадстаўленыя пры ягоным пасярэдніцтве, што зноў-жа, выразна супярэчыць заявам Молатава ў 1944 годзе. Дагаворная праваздольнасьць БССР далей застаецца абмежаванай **шматбаковымі** дагаворамі й канвэнцыямі, пераважна ў рамках АЗН, і не пашыраецца на **двухбаковыя** ўмовы із замежнымі дзяржавамі.

Ад прыналежнасьці БССР да АЗН беларускі народ у сэньсе абароны сваіх нацыянальных і людзкіх правоў ня мае ў дадзены мамэнт практычнай карысьці, або мае яе зусім мала. Пра гэта сьветчыць хоць-бы тое, што Масква ўсьцяж узмацняе ў Беларусі палітыку гвалтоўнай дэнацыяналізацыі й русыфікацыі. Але ў гістарычнай пэрспэктыве ўдзел БССР у АЗН можа мець і пазытыўныя вынікі. Імя Беларусі ўвайшло ў шматлікія міжнародныя дакумэнты й прававыя акты й вычыркнуць яго адтуль у час ліквідацыі каляніялізму й імпэрыялізму, у час стыхійнага нацыянальнага самавызначэньня народаў некамуністычнага сьвету ня лёгка навет кіраўніком Крамля, якія ўсё яшчэ за ўсякую цану, наўсуперак гэтаму разьвіцьцю, намагаюцца захаваць і пашыраць сваю імпэрыю.

**А. Залескі**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

# ДЗЕНЬ ПАМІНАНЬНЯЎ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

**Ад Рэдакцыі:** У нядзелю 15 чырвеня сёлета пасьля Божае Службы ў БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, адбылася жалобная ўрачыстасьць памінаньня тых заслужаных нашых суродзічаў, што адыйшлі ў вечнасьць. З памінальным дакладам выступіла сп-ня Галіна Русак, які ў ейным-жа скарачэньні ніжэй зьмяшчаем.

X

Пачну зь месяца чырвеня. Так выглядае, што чырвень быў сумным у жыцьці нашай эміграцыі дый у жыцьці наагул беларускім. Ад нас адыйшлі тут на чужыне чатырох беларускіх дзеячоў і правадыроў у нашым жыцьці ці то палітычным, ці то духовым: беларускі пасол у польскі сойм Васіль Рагуля ў 1955 годзе, адзін з пачынальнікаў адраджэньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьцяпан Войтанка ў 1968 годзе, ды дзесяць год таму адыйшлі Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Мікола Абрамчык і Архіяпіскап Васіль, што ачоліў беларускае рэлігійнае адраджэньне на эміграцыі.

Дзень памінаньняў дае нагоду ацаніць той унос у беларускае жыцьцё, што яны пакінулі пасьля сябе, той кірунак, які яны ачольвалі, ды ацаніць нашыя дасягненьні на гэтай дарозе пасьля іхнага адыходу.

Жыцьцё краіны, гэтак як і жыцьцё чалавека, ідзе цыклям, ад юнацкіх пошукаў, няпэўнасьці й надзеі да дарослай сілы й развагі ды ўзноў да занападу. Нашая дарога ўсё яшчэ вядзе пад гару, і таму нам цяжэй ісьці, чымся па раўніне.

Доля меншых народаў на гэтым шляху пад гару шмат залежыць ад вялікіх палітычных сілаў, як Задзіночаныя Штаты ці Савецкі Саюз. Яна залежыць ад трактатаў ды ўмоваў, прынятых гэтымі краінамі, якія кранаюць дадатна або адмоўна палітычную структуру й духовы стан малых краінаў.

Аднак у найбольшай меры доля народу залежыць ад правадырскага ўкладу й ахвярнасьці сваіх людзей. Бываюць пэрыяды, калі правадыры ясна зарысоўваліся перад народам, прыкладам, Лінкальн ці Рузвэльт. Сяньня ў Задзіночаных Штатах з набліжэньнем выбараў адчуваецца ў вадной і другой партыі нерашучасьць выбіральнікаў.

У нас Беларусаў на працягу гісторыі былі здольныя й моцныя правадыры паводля сваёй якасьці. Іх, нажаль, не хапала паводля колькасьці. І таму, асабліва тут, за межамі Беларусі, моцна адчуваецца адыход кажнага правадыра. Сяньня, калі мы ўшаноўваем памяць і працу тых, што адыйшлі, мы таксама выказваем асабістую трывогу за шлях будучыні.

Нашыя правадыры, якіх мы памінаем сяньня, прыйшлі з розных мясцінаў Беларусі: Навагрудчыны, Горадзеншчыны, Віленшчыны. І хаця ўсе яны прыйшлі із сялянскага слою, яны прыйшлі з розных эканамічных абставінаў. Васіль Рагуля хадзіў пехатой прамаўляць да беларускага народу ў часе перадвыбарнай кампаніі, хадзіў у лапцёх, бо ня меў ботаў. Уладыка Васіль, тады яшчэ Ўладзімер Тамашчык, а таксама айцец Сьцяпан Войтанка пахадзілі із заможнага земляробчага роду.

Ніхто зь іх ня меркаваў заняць вядучага становішча ў беларускім палітычным ці рэлігійным жыцьці. Іхным натуральным нахілам была гаспадарка, зямельная справа — беларуская глеба. Найбліжэй да глебы стаяў Васіль Рагуля: яго амаль сілай выцягнулі зь ягонай гаспадаркі.

Не зважаючы на гэта, пасол Васіль Рагуля рашуча й адважна ўзяў на сябе ролю абаронцы беларускіх правоў. Цікава паслухаць частку ягонай прамовы ў польскім сойме з 1926 году:

„Высокі Сойме! Маю гонар скласьці наступную дэклярацыю: Ад імя Беларускага Клюбу, як праўнага прадстаўніка беларускага народу заходнябеларускіх земляў, у справе зацьверджаньня Соймам кансулярнай умовы паміж Польшчай і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, падпісанае прадстаўнікамі ўрадаў маскоўскага й варшаўскага 18 ліпеня 1924 году ў Маскве, якая апынулася на соймавым форуме для зацьверджаньня, — заяўляю наступнае:

З увагі на незалежніцкія імкненьні беларускага народу, а таксама й таму, што ў вадносінах да беларускіх земляў ня было тарнавана правоў народаў на самавызначэньне, мы, праўныя прадстаўнікі гэтых земляў і беларускага народу ў Польшчы, які пакутуе пад неймаверным культурным, эканамічным і грамадзкім ціскам, правам даверанага нам нашымі выбаршчыкамі мандатаў, выяўляючы іх волю й жаданьне незалежнасьці, самакіраваньня й самавырашаньня аб сваім лёсе, неадназразова з гэтае трыбуны выказваліся супраць падзелу беларускіх земляў Рыскім Трактатам, як супярэчнаму прынцыпу самавызначэньню народаў.

. . . Няма сілы, якая-б здолела заглушыць жаданьне беларускага народу да аб'яднаньня й уласнага свабоднага жыцьця ды ягонае насьцярожаньне ў гэтым напрамку прысьпіць" (Васіль Рагуля, „Успаміны", Нью Ёрк, 1957, бач. 123-124).

Абодвы бліжэйшыя да нас часам і найвышэйшыя становішчам — Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык і галава Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Уладыка Васіль студыявалі й закончылі земляробства ў Чэхаславаччыне. Аднак патрабаваньне народу змусіла іх пайсьці іншай дарогай. Яны прынялі на сябе вялічэзную адказнасьць у няпэўным часе за долю палітычную й рэлігійную нашага народу.

Пра дасягненьні іхныя скажуць іншыя. Хачу толькі падчыркнуць, што нам доля спрыяла, калі Мікола Абрамчык прыняў на сябе адказнасьць Прэзыдэнта Рады БНР. Дзякуючы свайму такту й талеранцыі ў дачыненьні да сваіх установаў, грамадзтва й паасобных адзінак, ён умела вывяў беларускую справу на ўзроўню інтэрнацыяналную шляхам арганізаваньня ўсходніх нацыянальных меншыняў у Парызкі Блёк (Ліга Вызваленьня Народаў СССР), шляхам заснаваньня беларускіх перадачаў у Радыі „Свабода" ды шырокага ўдзелу беларускіх вучоных у Мюнхэнскім Інстытуце Вывучэньня СССР ды шляхам ягонага бесьперапыннага кантакту з урадамі Заходняй Эўропы й Вашынгтону. Ён разумеў і ўмеў паказаць нашыя патрабаваньні перад цэлым сьветам, а ня толькі для дыскусіі паміж сабою.

Хачу яшчэ зьвярнуць увагу на тое, што ахвярная рашучасьць Уладыкі Васіля й падтрыманьне ахвярнага духавенства, як а. Сьцяпан Войтанка й а. Хведар Данілюк, спрычыніліся да хуткага адраджэньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. А мы ведаем, як моцна трэба цаніць ейнае існаваньне ў Амэрыцы. Мы ведаем, што ня толькі рэлігійныя патрэбы, але й усё нацыянальнае жыцьцё, улучна з фэстывалямі, беларускімі выстаўкамі й іншымі культурнымі імпрэзамі, канцэнтруюцца вакол царкоўных асяродкаў.

На заканчэньне хачу сказаць, што для нас застаецца прыклад, за які трэба йсьці: ахвярнасьць, стойкасьць, вечны аптымізм і вечная чэснасьць.

**Галіна Русак**

**

Пасьля дакладу сп-ні Галіны Русак выступілі некаторыя прысутныя, якія бліжэй супрацоўнічалі з тымі, што адыйшлі, і ў сваіх кароткіх прамовах паглыбілі ўспаміны сп-ні Галіны Русак.

Рэдактар газэты „Беларус" Д-р Ст. Станкевіч першым узяў слова пра Прэзыдэнта Рады БНР Міколу Абрамчыка. Ён падчыркнуў, што Мікола Абрамчык быў дзеячам міжнароднага маштабу, а пэрыяд ягонай дзейнасьці назваў „эрай" Абрамчыка. Ён прыгадаў, што ягоны артыкул, які друкаваўся ў мюнхэнскай „Бацькаўшчыне" на 50-ыя ўгодкі Прэзыдэнта Абрамчыка, трэба ўважаць за матарыял дакумэнтальны, які быў апрабаваны й папоўнены самым Прэзыдэнтам.

Сп-ня Натальля Орса, якая із сваім мужам д-рам Аляксандрам Орсам часта сустракалася ў сваёй працы із сэнатарам Васілём Рагулям, падчыркнула ягоную ахвярнасьць для беларускай справы, часта прыношаную ім коштам сваіх матарыяльных сродкаў. Яна сказала, што сэнатар Рагуля заўсёды даваў матарыяльнае падтрыманьне для беларускай гімназіі ў Навагрудку й ейных настаўнікаў, цьвердзячы: „Ды што грошы, а школу ўтрымаць трэба". Калі сэнатар Рагуля пераездам наведаў беларускіх студэнтаў у Празе Чэскай, ён аддаў грошы, якія меў, на супольны пачастунак, а вяртацца дамоў ня меў за што. Сп-ня Н. Орса прыгадала, што калі Палякі пасадзілі Рагулю ў турму, ён ня меў за што вучыць свайго сына Міхася, які быў змушаны чакаць цэлыя два гады, каб пайсьці ў школу.

Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць прыгадаў усіх чатырох, што адыйшлі ў вечнасьць. Ён падчыркнуў, што калі ў цяжкія для нас часы Украінцы адпусьцілі свайго эпіскапа Сяргея, каб ачоліў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, Уладзімер Тамашчык, не зважаючы на тое, што ў сваёй агранамічнай прафэсіі мог выгадна ўладзіцца працаваць на Захадзе, аднак прыняў на сябе заданьне аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

На заканчэньне старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА Пётра Кажура сказаў колькі словаў пра Прэзыдэнта Міколу Абрамчыка. Ён прыгадаў, як Прэзыдэнт актыўна цікавіўся беларускімі асяродкамі на эміграцыі не зважаючы на іхную адлегласьць ад Парыжа. Калі ён паехаў у Італію й злажыў вянок на магільніку ў Монтэ Касына, гэтым ён зьвярнуў увагу замежжа на бясспрэчны факт, што за Монтэ Касына змагаліся й Беларусы.

Гэтыя чырвенскія памінаньні ў Нью Брансьвіку далі нагоду ня толькі ўшанаваць памяць памерлых, але таксама аднавіць нашую сьведамасьць, што пачуцьцё ахвярнасьці для агульнай справы вельмі моцнае ў беларускім народзе.

# З РОЗДУМУ ПРА „ПЕСЬНЯРОЎ"

Няма другога такога вакальна-інструмэнтальнага ансамблю ў Савецкім Саюзе, які карыстаўся-б гэткай шалёнай папулярнасьцяй, як „Песьняры". А напачатку ня было гэткага другога, аб якім так мала — амальшто нічога — ня пісалі ў прэсе, як пра „Песьняроў". Ад часу да часу зьяўляліся адно невялічкія камэнтарыкі, у якіх крытыкавалі ансамбль, тлумачучы пры гэтым, што ня трэба яго хваліць, каб не папсаваць калектыву. Але ня было ніводнага артыкулу, у якім тлумачылі-б, у чым хаваецца няўбывалы посьпех ансамблю. Дзе-б не гастраляваў ансамбль, у якой-бы частцы сьвету ён ня выступаў, усюды сустракала яго ўдача.

За выняткам колькіх песьняў, ансамбль „Песьняры" пад кіраўніцтвам Мулявіна сьпявае ў беларускай мове — гэта й народныя, фальклёрныя песьні, і каляндарна-абрадавыя, і на вершы беларускіх паэтаў Янкі Купалы, Максіма Танка, Пятруся Броўкі, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа ды на вершы маладых беларускіх паэтаў, пакладзеныя на музыку маладымі кампазытарамі. Ансамбль зь цікавасьцяй слухаюць і ў Азіі, і ў Амэрыцы, і ў Эўропе.

Усе дзесяць гадоў — спачатку „Лявоны", а пасьля — „Песьняры" — на вяршаліне папулярнасьці. У шмат якіх апытальніках іх справядліва называюць найлепшым і няперавышаным ансамблем Савецкага Саюзу. Ніводзін музычны ці тэатральны калектыў за апошнія 20 гадоў на Беларусі ня меў большае ўдачы, як „Песьняры".

Цяпер давайце адкруцім 10 гадоў назад і паглядзім, чаго каштавала гэтая ўдача. Чатыры музыкі, „Лявоны", сабралі старыя беларускія песьні, гэткія, як „Касіў Ясь канюшыну", „Скрыпяць мае лапці", „Хлопец пашаньку пахае", развучылі іх, зрабілі аранжыроўку для гітары ды паказалі сваю першую праграму Мастацкаму Савету Міністэрства Культуры БССР. Апошні праслухаў праграму й адказаў: „Няцікава, насьлядоўваньне, безгалосасьць, нявыразнасьць'.

„Лявоны" працавалі далей. Другі прагляд — вынік той-жа. Дарэчы той, хто чуў выступленьне „Лявонаў", можа пацьвердзіць, што ансамбль гучаў спачатку больш самабытна, як нават пазьней. Іншая рэч, што ня было такой апаратуры й добрых інструмэнтаў, як цяпер.

Але Міністэрства Культуры БССР баялася новай плыні, якую прадэманстраваў ансамбль „Лявоны" — праграма ягоная была нятыпова-новая й пасучаснаму мадэрнізаваная. Тымчасам Саюз пісьменьнікаў Беларусі пачуў пра „Лявонаў" і запрасіў іх даць канцэрт у былой тэатральнай залі Саюзу пісьменьнікаў пры вуліцы Энгельса. На другі дзень пасьля канцэрту зьявілася першая зацемка пра „Лявонаў" у газэце „Вячэрні Мінск". Адзін зь літаратараў выдаў прысуд: „Лявоны" ня могуць быць прадстаўнікамі нацыянальнае культуры. Гэта шарлатаны, на кштал шмат якіх замежных ансамбляў". З падобнай характарыстыкай ня шмат чаго можна дасягнуць. Але ансамбль далей рабіў рэпэтыцыі, купляў на свае грошы інструмэнты, ня падаў у роспач. Ня частыя канцэрты ў Дамох Культуры далі зразумець, што простыя людзі ўспрынялі песьні „Лявонаў", як сваю духовую спадчыну. Аб ансамблі загаварылі зьнізу, у народзе.

Дзякуючы ўсесаюзнаму конкурсу артыстых эстрады ў 1972 годзе, Фурцавай, якая дала яму пуцёўку ў жыцьцё, тагачаснаму дырэктару Беларускай філярмоніі, „Песьняроў" ужо прызналі за афіцыйны ансамбль і прымацавалі да філярмоніі ў Менску. Але ўжо тады стала ясна адно: што лёгкага жыцьця „Песьнярам" ня будзе. І ўзапраўды кажную новую праграму ансамбль прабівае зь вялікай цяжкасьцяй, із затратай як фізічных, гэтак і маральных якасьцяў. Рэч у тым, што „Песьняры" карыстаюцца вялікай папулярнасьцяй сярод моладзі.

Шмат якія песьні з рэпэртуару ансамблю моладзь успрыймае як песьні пратэсту. Пратэст супраць чэрствасьці й коснасьці ў афіцыйных дачыненьнях; пратэст супраць аблуднасьці й эгаізму савецкіх чыноўнікаў. Опэра-паэма „Мужыцкая доля", паэма „Гусьляр" — гэта не нядаўнія творы — гэта творы пяцігадовай ці й большай даўнасьці. Але на якой кружэлцы мы чулі гэтыя творы? Да 1979 году фірма „Мэлёдыя" выпусьціла толькі дзьве кружэлкі „Песьняроў". І гэта за 10 гадоў! Ды навет і шмат якія камсамольскія песьні на музыку Лучанка, Пахмутавай не заўсёды гучаць у канцэртах.

Канцэртныя арганізацыі баяцца будаваць праграму канцэртаў паводля собскага жаданьня „Песьняроў", каб не адбылося чаго-небудзь на ўзор таго, што адбылося пасьля канцэрту „Трубадураў" з Польшчы ў 1974 годзе ў Менску. Тады ўпяршыню зь беларускай сцэны прагучэлі рытмы, якія да таго часу ў Савецкім Саюзе глушылі, уважалі за буржуазныя, рэзалі на карані, але яны нарашце прагучэлі й нагэтулькі ўзбудзілі залю Палацу Спорту, што ў выніку ўсё вылілася ў запраўдную дэманстрацыю, за якую шмат хто паплаціўся 15-ма суткамі, дубінкамі й пакалечаньнямі.

Моладзь выяўляе вялікае зацікаўленьне да сучасных амэрыканскіх, эўрапейскіх ансамбляў, рок-опэраў, джазу, дыска, фолк-рок-опэраў, да чаго ў Савецкім Саюзе няма доступу. Вось чаму гэтак насьцярожана Мастацкі Савет Міністэрства Культуры БССР ставіцца да новых праграмаў „Песьняроў": яго трывожыць, ці няма ў іх чаго-небудзь бунтарскага. Опэру „Мужыцкая доля" здавалі Мастацкаму Савету разоў пяць, у выніку чаго скарацілі яе да мінімуму — як вакальныя партыі, гэтак і музыку.

Але ўжо само зьяўленьне „Песьняроў" на сцэне, першыя гукі музыкі іхнае, першыя радкі песьні — гэта ўжо свайго роду бунтарства. Пра гэта сьветчаць і іхныя жыцьцёвыя шляхі. Яны выцярпелі й выжылі таму, што моцныя духам, і тое, чаго яны захочуць — увесьці новага музыканта (іх цяпер трынаццаць), увесьці які-небудзь старадаўны музычны інструмэнт, сьпяваць тую, а ня іншую песьню, „Песьняры" заўсёды свайго дамогуцца.

Шмат хто параўноўвае іх із замежнымі „Чырвонымі гітарамі" (Польшча), „Трубадурамі" (Польшча), „Дып пэрпл" (Ангельшчына), але ніводзін зь пераліччаных ня мае беларускіх гусьляў, беларускае дудкі ды іншых старадаўных нацыянальных музычных інструмэнтаў. І ніводзін ансамбль ня мае такіх цудоўных, бязьмежнага дыяпазону славянскіх галасоў.

„Песьняры" ўвойдуць у гісторыю музычнага жыцьця й на Беларусі, і ў цэлым Савецкім Саюзе, як першапраходцы інструмэнтальнай музыкі, аранжыроўкі беларускай народнай песьні й носьбіты беларускай нацыянальнай культуры.

**Алесь Васілеўскі**

# БЕЛАРУСЫ НА ЭЎРАПЕЙСКІМ КАНГРЭСЕ Ў ПАСАЎ

Ад 1-га да 4-га травеня сёлета ў горадзе Заходняй Нямеччыны Пасаў, які ляжыць на мяжы трох дзяржаваў — Нямеччыны, Аўстрыі й Чэхаславаччыны, адбываўся Кангрэс Панэўрапейскай Вуніі, зарганізаваны ейным Нямецкім Сэктарам. Кангрэс праходзіў пад лёзунгам „Правы Чалавека ўва ўсёй Эўропе". У Кангрэсе прыймалі ўдзел: Дыпляматычны Корпус улучна з Амэрыканцамі, прадстаўнікі заходніх урадаў, паслы эўрапейскага й нацыянальных парлямантаў, палітыкі й навукоўцы вольных эўрапейскіх краёў, тэлевізія, прэса й г. д. Былі запрошаныя й прыймалі ўдзел у працах Кангрэсу беларускія прадстаўнікі Дзімітр і Надзя Касмовічы.

У першым дні Кангрэсу 2-га травеня на запросіны аўстрыйскіх прыхільнікаў Панэўрапейскай Вуніі удзельнікі Кангрэсу зрабілі адмысловае падарожжа ўздоўж Дунаю й знаёміліся міжсобку. На 2-гі дзень 2-га травеня ў сьвяточнай гарадзкой залі ў Пасаў Прэзыдэнт Панэўрапейскай Вуніі (Нямеччына) б. міністар-прэзыдэнт Баварыі д-р Арнольд Гоппэль урачыста адчыніў Кангрэс. У сваёй прамове ён прадставіў мэту Панэўрапейскай Вуніі — задзіночыць усю Эўропу ў вольнасьці, справядлівасьці й міры. Гэтай вольнасьцяй, — казаў ён, — павінны карыстацца ня толькі народы Заходняй Эўропы, але таксама й народы Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы. Звярачаючыся ў бок беларускіх прадстаўнікоў, ён падчыркнуў, што довадам імкненьняў народаў Ўсходняй, паняволенай Эўропы задзіночыцца ў вольнасьці й роўнасьці з народамі вольнай часткі Эўропы, ёсьць прысутнасьць на гэтым Кангрэсе беларускіх прадстаўнікоў.

Трэйці дзень — сыбота 3-га травеня прайшоў у працах трох камісіяў і пленарнага паседжаньня Кангрэсу. Працавалі тры Камісіі Кангрэсу: 1. Правы Чалавека ўва ўсёй Эўропе, 2. Эўрапейская „Энэргія" й ахова ад забруджаньня сьвету — перадумова сацыяльнай бясьпечнасьці Эўропы, 3. Узаемнае сяброўства й бліжэйшая сувязь паміж гарадамі й населенымі пунктамі Эўропы — уклад для справы міру.

Беларускія прадстаўнікі прыймалі актыўны ўдзел у працах першай Камісіі Кангрэсу. Беларускі прадстаўнік Д. Касмовіч прывітаў прысутных прадстаўнікоў і падчыркнуў, што проблема правоў чалавека ўва ўсёй Эўропе вельмі важная для задзіночаньня ў вольнасьці й міры ўсіх народаў Эўропы. Затым сп. Д. Касмовіч насьветліў прысутным цяжкую долю беларускага народу й ягонае змаганьне за правы чалавека й нацыі. Ён падчыркнуў імкненьне нашага народу стацца раўнапраўным сябрам вольнай сям'і народаў Эўропы. Ён зьвярнуўся да Кангрэсу з просьбай за пасярэдніцтвам урадаў і парлямантаў вольных краёў дапамагчы выйсьці на волю беларускім іншадумцам Міхалу Кукабаку, Аўгену Бузіньнікаву, Івану Карэйшу й іншым, якія за абарону правоў чалавека й свайго народу знаходзяцца ў турмах, псыхіятрычных бальніцах і савецкіх высылках.

Вялікай палітычнай маніфэстацыяй з удзелам некалькіх тысячаў людзей Кангрэс закончыў сваю працу. Кангрэс быў упрыгожаны мастацкай праграмай з удзелам міжнародных хораў, танцавальных, музыкальных і фальклёрных групаў народаў Эўропы. У пасаўскім касьцеле ў прысутнасьці прадстаўнікоў усіх хрысьціянскіх веравызнаньняў адбылася Багаслужба з малітвай за задзіночаньне ўсіх эўрапейскіх народаў у вадну вялікую, вольную й шчасьлівую эўрапейскую сям'ю.

**С. Каліновіч**

## „СЛУЖБОЎНІК",

пра які пісалася ў травенскім нумары „Беларуса". Дадаткова падаюцца да ведама цэны ў розных краінах: у ЗША й Канадзе — 15 даляраў. У Аўстраліі й іншых краінах, апрача Ангельшчыны, 10 даляраў. У Ангельшчыне — 3 фунты.

**Выдавецтва „ПАГОНЯ"**

# ВЯЛІКАЯ ЦАРКОЎНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У ЧЫКАГА

25-га травеня сёлета ў дзень сьвята Сёмухі Беларуская Каталіцкая Царква ўсходняга абраду ў Чыкага ўрачыста адзначыла 25-цігадовы юбілей свайго існаваньня.

Гэта быў узапраўды ўрачысты дзень. Сабралася шмат парахвіянаў, прыяцеляў і запрошаных гасьцей, якія запоўнілі царкву й прылеглую да яе залю. Падчас урачыстага ўваходу духавенства ў царкву айцец Архімандрыт Уладзімер вітаў дастойных гасьцей традыцыйным хлебам і соляй. Яго Эксцэленцыя Біскуп Альфрэд Абрамовіч, які рэпрэзэнтаваў Арцыбіскупа чыкагаўскай архідыяцэзыі Яго Эмінэнцыю Джана Кардынала Коды й Яго Дастойнасьць Абат бэнэдыктынцаў у Лаел Валентын Сьлюзацэк занялі ганаровае месца ў царкве.

Урачыстую Божую Службу, часткава ў ангельскай і беларускай мовах, адправіў Яго Дастойнасьць айцец Архімандрыт Уладзімер у суслужэньні айцоў Франьціса Кабы, Джозэфа Сіру, Майкэла Майлса й Джона Мак Доннэля, якія зьяўляюцца блізкімі прыяцелямі нашае царквы й памагаюць айцу Ўладзімеру пры адпраўленьні Божых Службаў у большыя ўрачыстасьці. Сьпяваў беларускі хор пад кіраўніцтвам сп. Амброжага Сірса, часткава з удзелам вернікаў. Яго Дастойнасьць Абат Валентын сказаў прыгожы прынагодны казань, а Яго Эксцэленцыя Біскуп Абрамовіч перадаў прывітаньні ад Яго Эмінэнцыі Кардынала Коды, які гаварыў пра Папу Яна Паўла Другога й на тэму дня.

Па Божай Службе й адсьпяваньні „Магутны Божа" дастойныя госьці сабраліся ў залі на кароценькі пачастунак і гутарку зь Яго Эксцэленцыяй Біскупам Абрамовічам і Абатам Валентынам, якія, маючы іншыя абавязкі ў гэтым дні, не змаглі быць на плянаваным пазьней банкеце.

А гадзіне 2:30 папаўдні прыгожая банкетная заля запоўнілася гасьцьмі й распачаўся абед-банкет з усёй прынятай агульна этыкетай пры такіх нагодах. Ежа была добра прыгатаваная й прыгожа пададзеная.

Па абедзе пачалася ўрачыстая частка. Сп-ня Кэты Вісьнеўская прывітала прысутных, а майстра цырымоніі айцец Франціс Каб прадставіў значнейшых гасьцей. Ад маладых парахвіянаў прамаўлялі сп-чна Ірэна Рамук, сп. Паўла Сенькевіч і сп-чна Анна Вімунк. Прамовы былі вельмі прыгожыя й сардэчныя. Яны гаварылі на розныя тэмы ў сувязі зь юбілеем і царквой. Із старэйшых гаварыў сп. Антон Беленіс, які закрануў гісторыю нашай царквы й успомніў людзей, якія прычыніліся да ейнае трываласьці. Сп-ня Сузан-Ода Кнэз вельмі пачуцьцёва гаварыла пра тое, чаму яна належыць да царквы Хрыста Збаўцы, а сп. Анджэлё Монтолеонэ, прафэсар гісторыі, расказаў навясёла, што сталася ў Амэрыцы ў часе 25-ці гадоў існаваньня нашае царквы.

Сп. Антон Шукелойць старшыня Галоўнай Управы БАЗА, прывітаў прысутных ад БАЗА й ад некаторых Беларусаў Нью Ёрку й ваколіцаў. Ён казаў: „Мне прыемна быць сяньня тут разам з Вамі, дзяліць Вашую радасьць з нагоды 25-годзьдзя Беларускае Каталіцкае Царквы Хрыста Спаса ў Чыкага ды перадаць нашыя віншаваньні й найлепшыя пажаданьні ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды Вашых прыяцеляў, якія хацелі-б быць сяньня з Вамі: Галоўнага Рэдактара газэты „Беларус" д-ра Станіслава Станкевіча із сям'ёй, праф. Антона Адамовіча, д-ра Янкі Запрудніка, спадарства Бартулёў і спадарства Гутырчыкаў". Айцец Джозэф Сіру, даўгалетні прыяцель і супрацоўнік парахвіі, у сваім прывітаньні падчыркнуў, што ён уважае нашую царкву сваім домам.

Ня буду ўваходзіць падрабязна ў гісторыю паўстаньня беларускай парахвіі ў Чыкага, бо гэта абяцаў зрабіць айцец Архімандрыт Уладзімер у вадмысловай брашуры, якая будзе выдадзеная з нагоды юбілею ў сёлетнім годзе. Аднак хацеў-бы зьвярнуць увагу на тое, што шмат людзей добрай волі прычынілася да таго, што адзіная сяньня ў заходнім сьвеце, паза Беларусяй, Беларуская Каталіцкая Парахвія ў Чыкага адзначае свой 25-цігадовы юбілей.

Першым з усіх быў гэта ейны фундатар сьв. пам. айцец Янка-Хрызастом Тарасэвіч. Ён стаўся ад самага пачатку ейным апякуном і кіраўніком. Ягонае вялікае, сьветлае й поўнае хрысьціянскае любасьці сэрца абыймала ўсіх людзей, а за гэта Бог багаславіў ягонай працы. Для нас Беларусаў у Чыкага айцец Янка Тарасэвіч застанецца назаўсёды ў нашай памяці, як запраўдны Хрыстовы Сьвятар, а таксама найлепшы прыяцель і брат.

Вялікая ўдзячнасьць належыцца ад нас усіх айцом Бэнэдыктынцам у Ляэлі й іхным Абатам, а перадусім сьв. пам. Абату Амброжаму Ондраку, які горача апякаваўся й памагаў матарыяльна нашай маладой царкве.

Мы ўдзячныя таксама чыкагаўскім арцыбіскупам: сьв. пам. Кардыналу Стрычу, які прыняў нас у сваім палацы й даў дазвол на ўтварэньне парахвіі, сьв. пам. Кардыналу Мэеру й Ягонай Эмінэнцыі Джону Кардыналу Коды, цяперашняму нашаму арцыпастыру. Гэтыя тры вялікія Князі Каталіцкага Касьцёлу асабіста наведвалі нашую скромную царкву, маліліся з намі, сядзелі з намі за супольным сталом, гаварылі з намі й жартавалі ды пакінулі незабыўныя ўспаміны.

А як-жа нам не падзякаваць дарагім і мілым сёстрам Хрышчэн Чарыты з Джозэфінум Гай Скул, якія далі нам першы й так гасьцінны прытулак у сваёй прыгожай капліцы й трымалі нас, пакуль мы ня купілі свайго будынку? Мы будзем ім удзячныя за гэта заўсёды.

Вялікая падзяка належыцца Ягонай Дастойнасьці Ўладыку Чаславу Сіповічу, які пасьвяціў нашую царкву й перажыў з намі ўсе радасныя й важныя падзеі й застаецца ў жывой лучнасьці з усімі намі. Мы вельмі шкадуем, што ён ня мог прыбыць на гэты юбілей. Будзем маліцца, каб Усемагутны вярнуў яму здароўе й захаваў яго нам на доўгія гады.

Няўтомным працаўніком на Божым палетку нашай царквы ёсьць Дастойны айцец Архімандрыт Уладзімер. Узяўшы ў свае працавітыя рукі кіраўніцтва маладой парахвіі з умеласьцяй і цярплівасьцяй паклаў моцны падмурак пад арганізацыйнае жыцьцё царквы й, перамагаючы перашкоду за перашкодай, забясьпечыў далейшае ейнае існаваньне. Дзякуючы ягонай бязупыннай працы, парахвія прыдбала й разбудавала собскі будынак, купіла суседні дом і сталася асяродкам рэлігійнай і беларускай дзейнасьці ў Чыкага.

Мы Беларусы ў Чыкага вельмі ўдзячныя айцу Ўладзімеру за шляхотнае пашыраньне імя нашае Бацькаўшчыны сярод так многіх прыяцеляў у Амэрыцы. Ніхто хіба з нас не зрабіў больш для дабра Беларусі ў Чыкага й разьлеглай ягонай ваколіцы за айца Архімандрыта. Ён, як добры пастыр, служыць дапамогай кажнаму, хто патрабуе душпастырскай апекі ня толькі ў Чыкага, але й далёка паза ягонымі межамі.

Мы ўдзячныя таксама нашым братом парахвіянам нябеларускага паходжаньня, якія так ахвярна й бязінтэрэсоўна працуюць для дабра нашае царквы. Успомнім таксама з удзячнасьцяй і тых нашых дарагіх суродзічаў, прыяцеляў і парахвіянаў Амэрыканцаў, якія ўсёй душой належалі да нашае парахвіі, але адыйшлі ўжо ў лепшае жыцьцё. Вечная ім памяць!

Разглядаючы мінулае й цяперашняе, з надзеяй глядзім у будучыню й падбадзёраныя гэтым сьвяткаваньнем, у якім маладое пакаленьне прыняло вельмі актыўны ўдзел, спадзяёмся, што царква нашая дачакаецца пяцідзесятых угодкаў.

**А. Беленіс**

# ШЛЮБ АНІ ВІНІЦКАЙ

У сыботу 31 травеня сёлета ў каталіцкай капліцы Сьвятога Сэрца Лаёльскага Марыманцкага Ўнівэрсытэту ў Лёс Анджэлесе адбыўся ўрачысты шлюб Ані, дачкі Спадарства Каці й Яраслава Вініцкіх, з Маркам Ёзэфам Ля Рывіер.

Перад шлюбам грала аркестра й ксёндз прыгожа прапяяў колькі песьняў, між імі „Авэ Марыя", пад акампаньямант арганаў. Прыняцьце адбылося ў Сыняй Залі музычнага цэнтру Павільёну Дароты Чандлер. Сярод прысутных Беларусаў былі й госьці здалёку — сп-ва Жэня й Віталь Цярпіцкія. Пад гукі добрай аркестры час прайшоў вельмі хутка й прыемна. Маладой пары прыяцелі жадалі шчасьлівага супольнага жыцьця.

Аня Вініцкая, як і ейная сястра Люся, была актыўнай сяброўкай Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі й удзельніцай беларускіх праграмаў.

**Н.**

# ФІЛЬМ ПАВОДЛЯ АПОВЕСЬЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Фільм пад загалоўкам „Восхождение" („Узыход") паводля аповесьці шырака ведамага беларускага пісьменьніка Васіля Быкава „Сотнікаў" будзе паказаны ў аўторак 26 жніўвеня сёлета ў кінатэатры „Талія" ў Мангэтэне ў Нью Ёрку. Кінатэатр знаходзіцца на 95-ай вуліцы недалёка ад Брадвэю. Даезд падземкаю (лінія ІРТ кірунак 7-ая эвэню. Вылазіць на 96-ай вуліцы).

Пачатак сэансаў папаўдні а гадзіне 2:20; 6:10 і 10.00. Цана білету $3.50. Фільм прадукцыі маскоўскай кінастудыі. Разам зь фільмам „Узыход" даецца другі савецкі фільм „Нявольнік каханьня".

Тэлефон кінатэатру: 222-3370.

# ЧАРОЎНАЯ НАРАЧАНСКА-ВЯЛЕЙСКАЯ НІЗІНА

Ад Ашмянскага ўзвышша на поўнач да Сьвянцянскіх градаў, і ад нізіны ракі Жэйманы на ўсход аж да Менскага ўзвышша раськінулася, пакрытая лясамі, балотамі й шматлікімі вазёрамі, Нарачанска-Вялейская нізіна — паўдзённая частка Беларускага паазер'я. Дастаткова на ёй і ворнай зямлі ды лугоў каля вазёраў і ў вабалонах рэкаў. Але найбольш славіцца яна сваімі вазёрамі.

На гэтай нізіне, на якой знаходзяцца большыя часткі Астравецкага, Смургонскага, Вялейскага адміністрацыйных раёнаў і цалкам Мядзельскі раён, у вадлегласьці 37-мі кілямэтраў на поўнач ад старой, прыгожай Вялейкі над чароўнай Вяльлёй, у Мядзельскім раёне Менскай вобласьці, ляжыць найвялікшае возера на Беларусі — Нарач. З возера выцякае й плыве праз хвойныя лясы на поўдзень рака Нарач або Нарачанка й спалучае яго зь Вяльлёй. Калі глянуць на карту, дык кідаецца ў вочы, што возера Нарач мае форму сэрца. А калі, прыйшоўшы да самога возера, глянуць зь ягонага ўзьбярэжжа на водны прастор, дык здаецца, што яно бязьмежнае. Ягоная плошча займае каля 80-ці (дакладна — 79,6) квадратных кілямэтраў. Даўжыня возера — 12,6 клм., а найвялікшая шырыня — 9,8 клм., даўжыня берагавой лініі каля 41 клм., найвялікшая ягоная глыбіня — амаль 25 мэтраў.

У ціхую, бязьветраную пагоду Нарач — возера спакойнае, але калі павее сільны вецер, дык яно хутка робіцца бурлівым, уздымаюцца высокія, як на моры, хвалі. Яго таму й завуць беларускім морам. На паўночна-заходнім беразе возера, утвораны зь вёсак Гаравыя, Купа, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сьцепянёва й Урлікі, ляжыць маляўнічы, рэспубліканскага значаньня курортны пасёлак Нарач. У ім ёсьць мінэральныя крыніцы й знаходзіцца санаторыя „Нарач". Ёсьць таксама дом адпачынку „Нарач" і турыстычная база „Возера Нарач". Апрача таго, у Нарачы знаходзіцца гідрабіялягічная станцыя Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, ёсьць вазёрная станцыя й рыбны завод. На паўдзённа-заходнім беразе возера знаходзіцца піянэрскі лягер „Зубраня".

У возеры водзіцца 22 пароды рыбаў, зь якіх II прамысловых, пераважна верхаводка, плотка, акунь, шчупак, джгір, вугор. Навакольныя вёскі — Гатавічы, Мікольцы, Пасынкі, Чараўкі, Нарач, Занарач, Скок — ад няпамятных часоў на працягу вякоў, так як яшчэ жыхары балцкіх паселішчаў над Нарачай у раньні зялезны век, жылі з рыбалоўства. Польскія ўлады на моцы прынятага ў 1932-ім годзе закону аб нацыяналізацыі рэкаў і вазёраў перадалі іх Дырэкцыі дзяржаўных лясоў, якая здала Нарач у арэнду прыватнаму акцыйнаму таварыству. Гэтае таварыства ў 1935 годзе забараніла жыхаром наднарачанскіх вёсак свабодна лавіць рыбу. Польская паліцыя арыштоўвала рыбакоў, якія, не зважаючы на забарону, прадаўжалі лоўлю рыбы. Рыбакі адмовіліся працаваць для акцыйнага таварыства й забаставалі. Прагналі арандатара. Дружыны самаабароны ахоўвалі чоўны й сеткі. Паліцыя правяла новыя арышты.

Якраз у той час, улетку 1935 году, над возера Нарач прыехаў на вакацыі віленскі ваявода палкоўнік Людвік Бацянскі, ведамы польскі „велькомоцарствовы" шавіністы й жорсткі зьнішчальнік беларушчыны. Безьзямельныя й малазямельныя сяляне-рыбакі, — для якіх рыбалоўства было галоўнай крыніцай існаваньня, бо на свабодныя пасьля Першай сусьветнай вайны абшары зямлі, прасякнутай крывавым потам і сьлязамі беларускага селяніна, наехалі чужынцы — польскія каляністыя-асаднікі, — абкружылі вілю, у якой адпачываў ваявода й галасна дамагаліся скасаваньня забароны. Гэта была грандыёзная, стыхійная народная дэманстрацыя. Польскія ўлады былі змушаныя пайсьці рыбаком на часткавыя ўступкі: павысілі цану на рыбу й дазволілі ім лавіць рыбу сваімі сеткамі.

Гэтай „Буры над Нарачай", — як назвала выступленьне нарачанскіх сялянаў-рыбакоў віленская польская кансэрватыўная газэта „Слово", якая, баронячы інтэрэсы буйных польскіх абшарнікаў у былой Заходняй Беларусі, заўсёды выступала супраць правядзеньня зямельнай рэформы й надзяленьня беларускіх сялянаў зямлёй, — выдатны беларускі паэта, сын Нарачанска-Вялейскай зямлі, Максім Танк, які сяньня, марнуючы свой вялікі паэтычны талент, выслугоўваецца „роднай партыі", прысьвяціў сваю паэму „Нарач". Паэма выйшла ў Вільні ў 1937 годзе, але была польскімі ўладамі сканфіскаваная. Максім Танк, які тады ўзьняў свой голас у вабарону крыўджаных польскімі ўладамі нарачанскіх рыбакоў, сяньня, калі яны паняволеныя расейска-савецкай уладай, загнаныя прымусам у ненавісныя ім калгасы, маўчыць. Сяньня ён — партыйна-літаратурны вяльможа. Яго сяньня, відаць, не кранае й не хвалюе сумная доля нарачанскіх рыбакоў.

А вось расейскі савецкі пісьменьнік Юры Нагібін у сваёй аповесьці, напісанай у часе хрушчоўскай „адлегі", піша пра іх із сымпатыяй і спачуваньнем.

На ўсход ад возера Нарач і вельмі блізка ад яго, аддзеленае вузкай паласой зямлі, па якой ідзе дарога із Занарачы ў Мікольцы, знаходзіцца другое, значна меншае (13.1 кв. клм.), возера Мястра. Вазёры Нарач і Мястра злучаныя воднай і кароткай пратокай-рэчкай. Калі прысланы з „Цэнтру" новы абсалютна некампэтэнтны начальнік рыбнай гаспадаркі, але затое партыйны Расеец, даведаўся ад рыбакоў, што вугры з возера Мястра кажны год увосені адплываюць цераз пратоку ў Нарач, а з Нарачы плывуць далей ракой Нарачанкай да Вяльлі, Вяльлёй да Нёману й зь ягонымі водамі — у мора, ён страшэнна ўзлаваўся й, стукнуўшы кулаком па стале, закрычэў: „Я ня выпушчу іх на капіталістычны Захад!" І загадаў рыбаком пабудаваць на пратоцы гаць, каб ніводзін вугор ня змог із Савецкага Саюзу „ўцячы ўзамежжа".

Але рыбакі катэгарычна адмовіліся выканаць ягоны дурны й злачынны загад, бо яны ведалі, чаго ня ведаў тупалобы начальнік-самадур, што вугры, хоць і жывуць у Нарачы, Мястры і ў іншых Нарачанскіх вазёрах, але на нераст плывуць у Атлянтычны акіян. Тады ён наняў за добрую плату сталяра, гэроя аповесьці, таксама Расейца, „наезьніка" з Курскай вобласьці, які прыехаў на Беларусь на заработкі. І вось калі гэты Расеец збудаваў гаць, начальнік загадаў яму яе ўночы й вартаваць, каб мясцовыя рыбакі яе не разбурылі. І ён вартаваў. У вадну ноч ён убачыў нешта несамавітае: тысячы вугроў, прыплыўшы да гаці, распачлівымі высілкамі дарэмна намагаліся церазь яе, б'ючыся аб дрэва, перабрацца. І калі ён убачыў групу рыбакоў з ломамі й сякерамі, якія прыйшлі разбурыць гаць, каб вугры маглі свабодна плысьці ў Нарач, ён і сам, схапіўшы лом, пачаў асьцервянела памагаць яе бурыць.

На паўночна-ўсходнім беразе возера Мястра стаіць ціхае, малое сяньня мястэчка, а паводля Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, гарадзкі пасёлак, Мядзел. Гайдаюцца на хвалях прыхаваныя каля прыбярэжных будынкаў чаўны, а над вадой у паветры носяцца крыклівыя чайкі. А калісь, у далёкай мінуўшчыне, Мядзел быў каралеўскім горадам, якім стаў ужо ў 16-ым стагодзьдзі. На вазёрным паўабтоку стаяў магутны, грозны, абнесены бастыёнымі землянымі ўмацаваньнямі й акружаны равамі з вадой мураваны замак. Падчас археалягічных раскопак сярод ягоных руінаў былі знойдзеныя рэчы хатняга ўжытку, узбраеньне, багата аздобленая кафля. А шмат раней у II-ым стагодзьдзі, Мядзел быў пагранічным гарадзішчам слаўнага крывіцкага Полацкага княства. Пазьней быў у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Паданьне кажа, што Мядзел калісь знаходзіўся над возерам Мядзел, але пасьля мору быў перанесены на блізкі ад яго бераг возера Мястра.

Да 20-га стагодзьдзя існавалі дзьве асобныя часткі мястэчка: Стары Мядзел і Новы Мядзел. Стары Мядзел першы раз успамінаецца ў пісьмовых крыніцах з 1454 году.

Пасьля другога падзелу Рэчыпаспалітай у 1793-ім годзе Стары й Новы Мядзел апынуліся ў складзе Расейскай імпэрыі й належалі да Вялейскага павету Менскай, а ад 1842 году Віленскай губэрні. Пасьля Рыскага трактату Мядзел быў пад Польшчай валасным мястэчкам Пастаўскага павету Віленскага ваяводзтва. Цяпер Мядзел зьяўляецца цэнтрам Мядзельскага раёну ў Менскай вобласьці. Церазь яго праходзіць тракт зь Вялейкі ў Паставы.

Возера Мядзел, крыху большае за возера Мястра, знаходзіцца ў вадлегласьці 5-ці кілямэтраў на паўночны-захад ад мястэчка Мядзел. Яшчэ бліжэй, на ўсход ад яго — возера Баторын. Назоў гэтага возера паўстаў ад таго, што ў ім утапілася шмат жаўнераў войска караля Сьцяпана Баторага падчас вайны з Маскоўшчынай.

А цяпер ськіруемся ад возера Нарач на паўдзённы захад. Туды, дзе тварылася, аснаваная на беларускіх матывах, славутая „Літоўская рапсодыя". У вадлегласьці 16-ці кілямэтраў ад Нарачы, у басэйне ракі Сьвірыцы, левага прытоку Страчы, што ў басэйне Вяльлі, на стыку межаў Мядзельскага, Вялейскага й Смургоньскага раёнаў знаходзіцца возера Вішнеўскае, а каля яго — вёска Вішнева. Там нарадзіўся аўтар „Літоўскай рапсодыі", славуты кампазытар, скрыпач, дырыгент і музычны дзеяч Мячыслаў Карловіч. Родны прастор і шум пахучых жывіцай хвойных лясоў гэтай вазёрнай краіны натхнялі кампазытара.

З паўночнага боку возера Вішнеўскага выцякае рэчка Смолка й упадае ў блізкае няшырокае (найвялікшая шырыня — 2,4 клм.), але даўгое (13,9 клм.) возера Сьвір, якое працягнулася на паўночны захад уздоўж заходняй мяжы Мядзельскага раёну. На канцы возера, на паўночна-заходнім ягоным беразе разьляглося старадаўняе мястэчка (паводля БелСЭ — гарадзкі пасёлак) Сьвір. Паданьне кажа, што заснаваў яго ў 13-ым стагодзьдзі літоўскі князь Доўмант на месцы мольбішча Пяруну. Да 16-га стагодзьдзя быў собскасьцяй князёў Сьвірскіх. Князі Сьвірскія ў 15-16-ым стагодзьдзях займалі дзяржаўна-адміністрацыйныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Князь Аляксандар падпісаў мірны дагавор Сьвідрыгайлы з крыжакамі ў 1432 годзе, а князі Эрых і Раман Сьвірскія падпісалі дагавор паміж вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам і Ягайлам у 1433 годзе.

Пазьней Сьвір перайшоў у собскасьць князёў Радзівілаў. Да трэйцяга падзелу Рэчыпаспалітай належаў да Ашмянскага павету ў Віленскім ваяводзтве Вялікага Княства Літоўскага. Пасьля прылучэньня Віленскага ваяводзтва да Расейскай імпэрыі быў спачатку валасным мястэчкам Завялейскага, а потым Сьвянцянскага павету Слонімскай, а ад 1801 году — Віленкай губэрні. Цяпер — у межах Мядзельскага раёну Менскай вобласьці. Блізка ад мястэчка, у старым парку існуе спэцыялізаваная санаторыя Міністэрства аховы здароўя БССР „Сьвір". Недалёка ад Сьвіра праходзіць стары тракт зь Вільні церазь Міхалішкі на левым беразе Вяльлі, Дунілавічы й Глыбокае ў старадаўні, слаўны калісь Полацак — калыску беларускай дзяржаўнасьці й культуры.

**Уладзімер Брылеўскі**

